
Паломніцтва памяці →3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Беларуская салідарнасць→5

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 33 (3353) Год LXV — Беласток, 16 жніўня 2020 г. — Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Вайна з народам

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ




■ Святлана Ціханоўская на выбарчым мітынгу ў Берасці і выбарчым участку ў Мінску


Фота svaboda.org


Фота svaboda.org

Увечары 9 жніўня на вуліцах беларускай сталіцы зноў пралілася кроў. Успамінаючы ўжо даўнюю снежаньскую Плошчу 2010 года, да гэтай пары даводзіцца здзіўляцца, якім неверагодным чынам, якім Боскім цудам у тым сілавым падаўленні, у той бойні, тады ніхто не загінуў. Новага народнага ўздыму давялося чакаць яшчэ доўгіх дзесяць гадоў. У бягучым і анамальным у сусветным маштабе 2020 годзе гэтае абуджэнне набыло новы характар, шырока ахапіла рэгіёны і амаль стыхійна вылілася ў масавы пратэст супраць цынічнай і здзеклівай фальсіфікацыі вынікаў галасавання на так званых прэзідэнцкіх выбарах. Улада прагназавана не прыдумала нічога лепшага, чым сілавое задушэнне мірнага пратэсту. Лукашэнка загадзя аб'яздкаў спецыяльныя падраздзяленні, вайсковыя часткі, рыхтуючы разгром пратэстоўцаў. Заранёў ён на ўвесь свет абвясціў, што „страну мы ім не аддадзім!”. Каму ім — беларускаму народу? Народу, які больш не хоча мець узурпатара за кіраўніка сваёй дзяржавы! Фактычна была абвешчана вайна беларускаму народу.

Антураж асноўнага дня галасавання быў незвычайным — у розных гарадах свету ля амбасад Рэспублікі Беларусь выстраіліся вялікія чэргі. На гэтых дыпламатычных пляцоўках чыноўнікі зрабілі ўсё, каб не даць тэхнічнай магчымасці прагаласаваць усім

Увечары 9 жніўня супраць людзей былі кінуты спецыяльная тэхніка, вадамёты, атрады міліцыі асаблівага прызначэння, якія закідвалі людзей святлошумавымі гранатамі, распылялі слёзатачывы перцавы газ, стралялі гумовымі кулямі. Вядома, што многіх паранілі, траўмавалі, пабілі, дзясяткі людзей пакалечаны. Мінскія хірургаў выклікалі ноччу для правядзення экстранных аперацый. Невядома, ці абышлося без больш ахвяр і іншых смяротных выпадкаў. Кандыдатка ў прэзідэнты Святлана Ціханоўская ў крытычны момант звярнулася да ўлады з заклікам не падаўляць народнае выяўленне справядлівага абурэння. А гэтае абурэнне было сапраўды мірным і справядлівым, людзі больш не хочуць цярпець татальнага ашуканства і здзеку над выбарчай сістэмай. Пратэсты ў Мінску цягнуліся да глыбокай ночы, у Брэсце і Гродне, Гомелі, іншых месцах яны былі разагнаныя раней. А ў некаторых меншых гарадах — у Лідзе, Баранавічах, Кобрыне, Пінску, Жлобіне мясцовыя сілавікі адмовіліся разганяць і біць людзей — такое здарылася ўпершыню ў найноўшай гісторыі. Загады пра затрыманні ў некаторых гарадах аддавалі менавіта прыезджыя „куратары”.

Таксама ўпершыню за апошнія дваццаць гадоў некаторыя ўчастковыя камісіі, якія раней выглядалі суцэльнай маналітнай глыбай, адмовіліся фальшаваць вынікі падліку галасоў і вывесілі пратаколы з рэальнымі лічбамі на карысць Ціханоўскай. Афіцыйна вядома, што Ціханоўская перамагла на дзясятку ўчасткаў, а гэта азначае, што такая рэальная карціна на пераважнай большыні гарадскіх выбарчых участкаў. Сістэма ўсеагульнага ашуканства і выбарчых махінацый затрашчала, а зараз яна трымаецца выключна на сілавых структурах.

Многія ў Беларусі ведалі і не верылі, што „вечны гарант” сапраўды перамагаў на прэзідэнцкіх выбарах 2006 ці 2010 гадоў. Ёсць перакананне, што як мінімум тады павінен быў праводзіцца другі тур. Але яшчэ ніколі рэальная і фактычная параза Лукашэнкі не была такой відавочнай. І гэта ўпершыню ўбачылі ўсе — сам узурпатар са сваімі прыспешнікамі, члены ўчастковых і тэрытарыяльных камісій, міліцыянты, суддзі і пракуроры, і самае галоўнае — пераважная большыня звычайных выбарцаў. Параза Лукашэнкі зараз сталася аглушальнай, узурпацыя ім улады настолькі яскравай, што ўпершыню нават у некаторых камісіях іх прадстаўнікі перасталі фальсіфікаваць і адмовіліся падрабляць вынікі выбараў.

Лукашэнка за чвэрць стагоддзя надакучыў, абрыд, загідзеў, стаў ненавісным, не ведаю, якое яшчэ слова падабраць, народу. У выніковыя лічбы галасавання, якія зачытвала вечная спадарожніца Лукашэнкі, галоўная фальсіфікатарка і маніпулятарка працэсу Лідзія Ярмошына, не вераць ужо нават ні дзеці, ні былыя прыхільнікі некалі сапраўды папулярнага Лукашэнкі.

Лукашэнка загадзя рыхтаваў вайскоўцаў, усе сілавыя структуры, была спланаваная і выніковая лічба 80% нібыта набраных ім галасоў. А вакол начальніка дзяржавы штораз усё больш ахоўнікаў — гэта яскравы індыкатар таго, што ён таксама ведае пра тое, як яго „любіць” народ. 9 жніўня і як мінімум на наступны дзень па ўсёй Беларусі быў беспрэцэдэнтна блакаваны інтэрнэт, каб не даць людзям сапраўднай праўдзівай інфармацыі.

Невядома на момант, калі па гарачых слядах пішуцца гэтыя радкі, ці працягнуцца пратэсты далей. Але тактыка мірных пратэстаў і штрэйкаў зараз абсалютна апраўданая і напэўна адзіна правільная. Заклікі Святланы Ціханоўскай да мірнага развязання праблемы прывалтызацыі Лукашэнкам улады — гэта хіба лепшае, што зрабіла Ціханоўская ў гэтай выбарчай кампаніі. Важна не давесці

чытайце ☞ 2

1 ☞ працяг

халодную грамадзянскую вайну да гарачай і маштабна крывавай. Але калі бліжэйшыя паплечнікі Лукашэнкі не перакануюць яго (дасведчаныя людзі кажуць гэта немагчыма), што трэба ісці на нейкі кампраміс з грамадствам, на перамовы з яго апанентамі, цана дыктатуры можа быць аплачана вельмі дарагой цаной. 26-гадовае пананаванне Лукашэнкі ўжо вельмі дорага абышлося беларускаму грамадству, беларускай нацыі. Калі ён жорсткай сілай пратрымаецца яшчэ некаторы час, гэтыя страты будуць проста вялізнымі.

Падрыхтаванымі да рэпрэсій уладамі пачатыя новыя крымінальныя справы па факце нібыта гвалту да супрацоўнікаў міліцыі і прадстаўнікоў іншых сілавых структур і трэба меркаваць, што да гэтых сфабрыкаваных спраў будуць прышчэплены дзясяткі людзей, якім пагражаюць вялікія турэмныя тэрміны. Зараз беларускае грамадства будзе праходзіць жорсткі экзамен на агульнанацыянальную салідарнасць і кансалідаванасць, сапраўды жорсткі іспыт на нацыянальную спеласць. На жаль яна, грамадска-нацыянальная спеласць і свядомасць пакуль значна адстае ад грамадска-сацыяльнай. Многія дагэтуль не разумеюць сапраўдную прыроду гэтага рэжыму. Не разумеюць, што рэжым па вялікім рахунку — гэта філіял маскоўскага гэбісцка-імперскага праекта. Многія не могуць пакуль асэнсаваць, што гэта Крэмль доўгі час падтрымліваў і сілкаваў гэты рэжым і, нягледзячы на пэўныя разыходжанні з Лукашэнкам, заўсёды падтрымліваў яго як свайго стаўленіка і выканаўцу маскоўскіх інтарэсаў. І што, калі нас пачне „вызваляць" Масква, гэта не прынясе чаканага збаўлення. Калі ў Беларусь дэмакратыю будуць несці дэ-факта маскоўскія эмісары, кшталту сямейнай пары Цапкалаў, скончыцца гэта непазбежна кепска. Характэрны момант як у вырашальны момант, фактычна ў галоўны дзень, Вераніка Цапкала кінула без папярэджання Ціханоўскую і з'ехала ў Маскву, сведчыць пра многае. Пуціну найбольш выгодны варыянт максімальна аслабленага Лукашэнкі з адпаведнымі наступствамі і яшчэ больш шчыльнымі „братэрскімі абдымкамі". І да гэтага пакуль усё ідзе.

Іншая ілюзія, што „Захад нам паможа", паступова развейваецца. Беларусы могуць разлічваць толькі на салідарнасць асобных палітыкаў і палітычных плыняў, пераважна з Усходняй Еўропы. Што датычыць мацнейшых дзяржаў Заходняй Еўропы, кіраўніцтва Еўрасаюза, то яны чвэрць стагоддзя ідуць у рэчышчы рэалпалітык і шчыльна супрацуюць з крамлёўскім рэжымам і яго атожылкамі.
Уся гэтая палітыка шродэраў-шыракаў, меркеляў-макронаў далёкая ад сапраўдных еўрапейскіх ідэалаў свабоды і дэмакратыі. Тое ж датычыць і інфармацыйнай прасторы. 9 снежня агідна было глядзець як у сітуацыі татальнага адключэння ў Беларусі інтэрнэту, амаль інфармацыйнага вакууму, шырока даступны нашым гледачам праз кабельныя сеткі тэлеканал Euronews асвятляў падзеі ў Мінску. Толькі на другі дзень на гэтым тэлеканале з'явілася ў нейкай ступені больш-менш аб'ектыўная інфармацыя таго, што адбывалася.

Але беларуская нацыя сапраўды абудзілася, прачнулася, здрыганулася, прагне перамен і змены ўлады. Шматлікія акцыі цягам выбарчай кампаніі пад бел-чырвона-белай сімволікай у самой Беларусі і за яе мяжой дадаюць аптымізму. І хочацца верыць, што „Сонца нам дапаможа — яно любіць нас".

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ


Фота racyja.com




# Я чагосьці баюся



У цяперашні час мы маем справу з дзвюма заразамі ў Польшчы — каранавірусам і інфляцыяй. Можа дадаць яшчэ адну чуму — усё больш ядавітую ўладу. Нашы суседзі, беларусы, перажываюць гэтую трэцюю чуму ўжо некалькі дзесяцігоддзяў і ніяк не застрахаваны ад яе. Яны жылі, працавалі, спрабавалі выжыць. Аднак яны не ўлічылі, што вірус самаўладства пастаянна мутуе. Беларускія выбары паказалі, што грамадства краіны цалкам неабаронена ад тае чарговай заразы. Тым больш, што нацыянальная эканоміка даўно грабе аб дно ў выніку неэфектыўнага кіравання, а залежнасць краіны ад Расіі стала яшчэ больш карыкатурная, і ёсць усё менш надзей на нават невялікую эканамічную і сацыяльную стабілізацыю. Прасцей кажучы, беларусы, акрамя некалькіх блізкіх да ўлады колаў, адчулі сябе жудасна дрэнна. Бо як інакш растлумачыць паслявыбарчыя пратэсты грамадзян і нават вулічныя бойкі на барыкадах, калі не вірусная ліхаманка? Вядома, у прэзідэнцкіх выбарах перамог Аляксандр Лукашэнка. Яшчэ неафіцыйна. Але афіцыйна ніхто не можа адмаўляць, што за некалькі тыдняў да выбараў пажыццёвы прэзідэнт і кандыдат у прэзідэнты ўжо пацвердзіў неафіцыйныя вынікі. Выбарныя даследаванні *exit poll*, праведзеныя перад выбарчымі ўчасткамі па заказе Беларускага дзяржаўнага тэлебачання, давалі яму больш за 80% падтрымкі. О, на гэты раз прэзідэнт моцна перабольшыў, які, у жаху ад такога высокага выніку, нібыта збег у сяброўскую Турцыю і адтуль заклікаў выбарчыя камісіі пералічыць галасы выбаршчыкаў. На гэты раз без круцельстваў, але і без залішняй скрупулёзнасці. Я мяркую, што ён будзе цалкам задаволены вынікам не меншым за 51% і не большым за 65%. З аднаго боку, гэта дазволіць яму пазбегнуць удзелу ў выбарах у II туры з апанентам з наймацнейшай грамадскай падтрымкай — Ціханоўскай; з іншага боку, гэта астудзіць скепсіс усіх тых, хто не верыць у сумленнасць выбарчых камісій. Ва ўсякім разе, на што будуць разлічваць гэтыя камісіі, якія будуць падлічваць, але Лукашэнка ўсё роўна пераможа на выбарах. Аднак беларусы прайграюць.

Невуцтва ўладароў у Польшчы, якія незалежна ад абмежаванага дзяржаўнага бюджэту без ваганняў раздаюць усялякія 500 і 1000 плюсы, лепш за ўсё выказвае скачучая інфляцыя — верагодна, з найбольшым ростам сярод усіх краін Еўрасаюза. Таму цэны на паслугі і тавары ў Польшчы растуць.
Чым гэта пагражае? На думку экспертаў, супрацоўнічаючых з незалежным парталам OKO.press, „больш высокія цэны на паслугі і тавары могуць прывесці да значнага запаволення спажывання, што натуральна паўплывае на стан усёй эканомікі. За гэтым будзе суправаджацца зніжэнне росту ВУП і пастаяннае павелічэнне індэкса цэн". Для звычайнага едака хлеба гэтая інфармацыя мала азначае. Праблема, якую яны фактычна выяўляюць, заключаецца ў тым, што беднасць расце. То-бок, як ні парадаксальна, нягледзячы на багацце ўсіх плюсаў, колькасць людзей, якія жывуць у беднасці, пастаянна расце. Інфляцыя схавана з'ядае каштоўнасць розных сацыяльных выплат, і таму што ўрад эфектыўна не аднаўляе іх, адпаведна зніжаецца і іх рэальная каштоўнасць. Як паведамляе OKO.press, поўная карціна сітуацыі была выяўлена ў справаздачы Poverty Watch 2019 — Еўрапейскай сеткі супраць беднасці. «Гэта паказвае, што ў 2018 годзе ў Польшчы ўзрастала крайняя беднасць у кожнай сацыяльнай групе. І так: сярод дзяцей на каля 90 тысяч — ад 325 тыс. у 2017 годзе да 417 тысяч у 2018 годзе; сярод пажылых людзей на каля 60 тысяч прыблізна з 216 тысячамі ў 2016 г. да 276 тыс. у 2018 годзе. У цэлым у 2018 годзе 2,1 мільёна польскіх жанчын і мужчын жылі ніжэй за пражытачны мінімум, гэта значыць на 422 тысячы больш, чым у 2017 годзе». Дадзеныя ГУС за 2019 год будуць абвешчаныя неўзабаве, і толькі яны пакажуць сапраўдны маштаб драмы. Між тым улады займаюцца нацыянальнай палітыкай, а не нацыянальнай эканомікай. Яны ўбачылі сваім галоўным ворагам ЛГБТ-супольнасць і ўсіх, хто думае інакш. Прыклад для іх — Лукашэнка, які ўжо разбэсціў дзяржаўную міліцыю, некаторых пракурораў, суддзяў і журналістаў, якія, замест таго, каб служыць грамадству і дзяржаве, слугуюць уладзе. Я ўважліва назіраю за падзеямі ў Беларусі. Гэта, несумненна, час перамен. Пасля перамогі на прэзідэнцкіх выбарах улада дасягнула піку магутнасці. Каранавірус не палохае яе. Інфляцыя ёй не страшная. І не баіцца сама сябе.

Міраслаў ГРЫКА

* * *

## ЗАЯВА
### Сакратарыята ГА „Саюз беларускіх пісьменнікаў"

9 жніўня 2020 года ў Беларусі прайшлі прэзідэнцкія выбары. Падчас галасавання былі выяўлены шматлікія парушэнні выбарчага заканадаўства: перашкоды ў працы і затрыманні грамадскіх актывістаў, незалежных назіральнікаў, супрацоўнікаў штабоў і давераных асобаў кандыдатаў у прэзідэнты, адсутнасць міжнароднага назірання, забарона незалежных экзіт-полаў, маніпуляцыі з датэрміновым галасаваннем, што ў выніку стварыла перавышэнне яўкі выбаршчыкаў на шэрагу ўчасткаў для галасавання.

Усё гэта разам з беспрэцэдэнтнымі па сваёй жорсткасці дзеяннямі супрацоўнікаў сілавых структур у дачыненні да мірных пратэстоўцаў прывяло да ўзрастання канфрантацыі ў грамадстве і паставіла пад сумнеў вынікі галасавання і легітымнасць дзейнай улады як у грамадзян Беларусі, так і ў міжнароднай супольнасці.

Сакратарыят ГА „Саюз беларускіх пісьменнікаў" патрабуе:
— спыніць гвалт у дачыненні да мірных пратэстоўцаў;
— неадкладна вызваліць усіх затрыманых падчас выбарчай кампаніі 2020 года;
— абраць новы склад Цэнтральнай выбарчай камісіі Рэспублікі Беларусь у сувязі з катэгарычным недаверам да цяперашняй ЦВК;
— правесці паўторныя празрыстыя дэмакратычныя выбары, забяспечыўшы фарміраванне выбарчых камісій з абавязковым удзелам прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці, незалежных міжнародных і беларускіх назіральнікаў.

*10 жніўня 2020 года*

# Я памалюся за тое, каб людзі, якія сталі ахвярамі, перасталі баяцца...



— Ну, дачакаліся мы справядлівасці божай, — уздыхае Галіна. — Ніхто не прыдумаў бы такога заканчэння....

Галіна, элегантная беластачанка ў гадах, адразу паміж песнямі і малітвамі першай завязвае размову пра божую справядлівасць. У Браньск і Зані на пілігрымку да новых Мучанікаў Падляшскіх паклікала яе сямейная памяць.

— Я там жыла, — кажа. — Наглядзелася на страх і колкую варажнечу. Яшчэ ў сямідзясятыя гады людзі баяліся свайго духу. Рабілі ўсё, каб стаць непрыкметнымі, знікнуць усім з вачэй. І ўсё хвалілі ад людскіх вачэй, ніколі не хваліліся багаццем, — Галіна таксама не назве свайго прозвішча. — *Oni szybko dojdą, kto i co mówił. Po co dla dzieci mam robić kłopoty?*

Сама Галіна з Гайнаўшчыны, у Браньск патрапіла за мужам. Яе цешча яшчэ адзывалася па-свойму, а муж, як усе маладыя, гаварыў толькі па-польску. Цесці шанавалі яе за беларускасць. Але цяжка было ім выжыць пад адным дахам.

— Памятаю як раз я памыла пялёнкі дзіцяці і развесіла іх на двары, каб хутчэй прасохлі. Якраз разгар лета, спякота як сёння панавала. Стаю і гляджу, бо ў такую жару ўсё ўміг прасыхае. Аж тут вылятае цешча і крычыць, каб хутчэй усё прыбрала, — Галіна нічога не разумела, аднак напалохаў яе страх у цешчыных вачах. — Ведаеце, — прадаўжае жанчына, — пасля вайны іх дагала абрабавалі суседзі-каталікі. Забіралі ўсё, нават старыя laткі і смярдзючыя анучы. Гэты страх ніколі не выветрыў з галавы нашых людзей...

Добра што ў нашай маршрутцы спяваюць і моляцца. Якраз праз мікрафон агучвае малітву сам арганізатар, беластоцкі радны Славамір Назарук.

З Галінай нам атрымліваецца пенне на два галасы. Хоць думаю пра пялюшкі і непрыкметны для свету страх ахвяр у шчаслівыя нашы сямідзясятыя...

* * *

— А найгоршае тое, што ахвяры лічылі сябе вінаватымі, — кажа Аля Харужая з Беластока. Аля прыехала для сваіх дзядоў і сваякоў, якія загінулі ў пасляваеннае ліхалецце ад банд. Яе маці, якая вачыма дзіцяці глядзела на жудаснае забойства, хварэла псіхічнай хваробай. — Ёй здавалася, — цягне мая субяседніца, — што бацькі загінулі па яе віне. Што гэта яна іх замардавала...

Згустак эмоцый прымушае нас памаўчаць, узяць свежы глыток паветра. Насупраць б'юць званы касцёла.

— Я сама доўгі час адчувала сябе вінаватай, — дапаўняе мая субяседніца, — бо не гаварыла пра сямейную трагедыю поўным голасам. Чаму яшчэ мне прыйшлося цярпець за сваю крыўду, саромецца чужога злачынства, адчуваць сябе горшай?

Аля верыць, што кананізацыя васьмідзесяці Пакутнікаў Падляшскай зямлі штурхне наш народ да шырэйшай прасветы. Што людзі больш будуць цаніць сваю мову, культуру, спадчыну.

— А сёння памалюся за тое, — кажа беластоцкая настаўніца, — каб людзі, якія былі ахвярамі, перасталі баяцца. Гэта ж такая пакута... не, не расказаць...

З апошнімі словамі пераступаем парог царкоўкі-мураванкі ў Браньску. Ужо з прытворка ахінае нас ласкавасць позіркаў святых на адрэстаўраваных іконах і фрэсках. Усю сярэдзіну займаюць крэслы. Праз сцены і прыадкрытыя дзверы прабіваецца багаслужба ў касцёле.

— А ў вас заўсёды так многа людзей? — пытаю ў спадара Сцяпана за свячным яшчыкам.





— Столькі народу як сёння даўно тут не бачылі, — чую ў адказ. — У Браньску нас жменька. Ды сама царква лічыцца філіялам парафіі ў Малешах. Ну і адзін бацюшка, Марк Якімюк.

* * *

— Але гэта цалкам не так, — кажа мне настаяцель. — Зараз мне дапамагае рэзідэнт, бацюшка Яўгеній Сушч. Дзякуючы гэтаму па нядзелях багаслужбы адбываюцца ўжо ў абедзвюх цэрквах...

На прастоле ўпершыню пакладзена ікона Падляшскіх мучанікаў, Залешанская Багародзіца і сімвалічны састаў пакутнікаў.

— Ведаеце, цяжка было ўсіх змясціць на адной дошцы, таму тут толькі прадстаўнікі з нашых пацярпелых вёсак. Далёка не ўсе святыя. Але мы гэта выправім!

Бацюшка думае, каб напісаць яшчэ такія іконы, дзе будуць усе мучанікі з яго парафіі. Напэўна асобную ікону закажуць для пакутнікаў з Занёў. Іншая будзе прысвечана святым са Шпакоў. Іх дакладна падпішуць, каб нішто не сцерлася з памяці...

— А сёння ўпершыню мы заспяваем ім велічанне, — дадае з гонарам бацюшка, але і відавочным хваляваннем. У выкананні апошняй задачы выдатна прыслужыцца наша паломніцтва, якое падмацуе мясцовы хор.

Бо хор у Браньску і Малешах гэта ўражлівая спадарыня Ніна. Калі пытаю ў яе, дзе выстойваюць на харах альты, чую ў адказ:

— У сама альты і сапраны.

Літургія, як не дзіўна, пачалася з паніхіды ды завяршылася малебнам за згаданых ужо велічаннем Пакутнікаў Падляшскай зямлі, што пацярпелі за Хрыста.

— Гэта і ёсць божая справядлівасць, — кажа ўзрадаваная Галіна, мая субяседніца з пілігрымкавай маршруткі.

А я ўзіраюся ў купал размаляваны фрэскамі з апосталамі. Гістарычны момант прабіваецца да маіх мазгоў, ці хутчэй да сэрца. Гэтая гісторыя настолькі ішла непрадказальнымі шляхамі ды нават з маім сціплым удзелам.

* * *

У пілігрымку, арганізаваную беластоцкім Брацтвам трох іерархаў, у Браньск, Зані і Пухалы-Старыя, нягледзячы на страх перад пандэміяй і ўсе абмежаванні, я не магла не паехаць. І гэта не таму, што сярод ліку святых апынуліся героі маіх рэпартажаў. У гэты дзень — 26 ліпеня 2020 — завяршыўся самы страшны і незабыўны момант у маім журналісцкім жыцці. Летам 1994 года, дакладна 26 гадоў таму, я пабывала як журналіст у Пухалах-Старых і на каталіцкіх могілках у Кліхах, што на Браньшчыне. У гэты дзень якраз раскапалі магілу вазакоў. На верху, ля брацкай магілы, у роўных кучах ляжалі пасартаваныя рабрыны, галёначныя косткі, пазваночнікі, чэрапы вазакоў. Жменька сямейнікаў, якая выстойвала над магілай, здавалася жалобным вэлюмам, ценем. Ад відовішча пранікаў прыгнятальны тупы боль у жывыя косці. Душу апанавала невыказаная крыўда. Усе словы замерлі, ды разам з імі, здавалася, уся прырода — дрэвы, трава, камяні. Нават гукі паніхіды, якую чулліва спяваў айцец Ян Раманчук з Чыжоў, дзесьці ніклі, быццам глытала іх роспачная хмара жалю. Усе, хто стаяў над магілай у атрупянелай цішыні, плакалі. Плакалі ў маўчанні, у засаромленасці, у пачуцці бяссілля. Праз дзесяць хвілін, а можа і даўжэй яшчэ. Час тады зацінаўся, мяшаліся вобразы сучаснасці і мінулага. Плакалі, бо ніхто не ведаў, які лёс сустрэне адкапаныя косці і нас саміх. Стоячы на харах у браньскай царкве час мне таксама зацінаўся, хаця ў галаве ўжо па-велікоднаму гучалі словы паломніцы Галіны пра божую справядлівасць...

Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**

# Аднадзённае «Ператоча-2020»

Настаянныя ўдзельнікі Міжнароднага фестывалю Белавежскіх мастацкіх інтэграцый «Ператоча», якія 1 жніўня прыбылі ў амфітэатр у Белавежы на XVIII выпуск гэтага мерапрыемства, ведалі, што яго беларуская назва абазначае месца перад *токам* у клуні. Ведалі таксама, што ў мінулым у клуні і побач яе ў нашых вёсках ладзіліся вясельныя і іншыя гасцяванні з танцамі. Аднак у гэтым годзе большасць публікі «Ператоча» саставілі турысты, якія шматлюдна адпачывалі ў Белавежы і навакольных пушчанскіх мясцовасцях і зацікавіліся культурай пушчанскага рэгіёна. Многія з іх упершыню трапілі на «Ператоча» і мелі магчымасць пазнаёміцца з займальным песенным рэпертуарам беларускіх калектываў і беларускай спявачкі, якія ў гэтым годзе саставілі палову выканаўцаў. Маглі таксама паглядзець выступленні палякаў, літоўцаў, яўрэяў і цыганоў. Формулу вядзення «Ператоча» на дзвюх мовах — беларускай і польскай — станоўча ўспрымалі турысты, якія мелі магчымасць пачуць мову ўсходніх суседзяў Польшчы.

XVIII Міжнародны фестываль «Ператоча-2020» пачаўся з выступлення трубача Анджэя Чарнэцкага, які штодзень працуе ў белавежскай гасцініцы «Зуброўка». Адкрылі мерапрыемства старшыня Фонду «Царкоўная музыка» Мікола Бушко, які коратка растлумачыў характар шматкультурнага мерапрыемства і дырэктар Белавежскага асяродка культуры Марк Зубрыцкі, які прывітаў удзельнікаў фестывалю ад імя войта Белавежскай гміны Альберта Літвіновіча. Ганаровы патранат над «Ператочам» ажыццяўляў маршалак Падляшскага ваяводства. Мерапрыемства ўдала вёў Радаслаў Дамброўскі. У адпаведнасці з санітарным рэжымам каля сцэны белавежскага амфітэатра была выдзелена і абведзена лентай тэрыторыя для публікі.

— Мы захоўваем рэжым, які абавязвае ў час пленэрных мерапрыемстваў. На адведзенай для «Ператоча» пляцоўцы яго ўдзельнікі сядзяць у масачках, а раней мелі магчымасць абеззаразіць рукі. Цяпер у Белавежы адпачывае вельмі многа турыстаў і яны састаўляюць вялікую частку публікі. Людзі, прыехаўшыя на адпачынак у Белавежскую пушчу з розных рэгіёнаў Польшчы, маюць магчымасць пазнаёміцца ў нас з культурай нацый, якіх прадстаўнікі жылі ў наваколлі Белавежскай пушчы. Сёння, як і ў папярэдніх гадах, прэзентуем найбольш беларускага рэпертуару, з якім выступаюць лепшыя беларускія калектывы, а Кацярына Ціханюк са Збуча запрэзентуе неапрацаваны фальклор. У гэтым годзе з-за каранавіруса не маглі прыехаць калектывы з Беларусі, Украіны і Расіі, адкуль выканаўцы выступалі ў мінулых гадах. Польскую, яўрэйскую і ромскую культуру запрэзентуюць калектывы з Польшчы, а літоўскую пакажа калектыў з Літвы, адкуль выканаўцы могуць прыязджаць свабодна. Таксама з-за пандэміі і эканамічных складанасцей мы рашыліся не прасіць нашых спонсараў дадатковай дапамогі. Паколькі датацыя Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі, якая ўспамагаецца сродкамі Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства невялікая, рашыліся мы, што фестываль будзе працягвацца не два дні, як было да гэтай пары, а толькі адзін дзень. Важна нам дапамога Белавежскага асяродка культуры, які выступае суарганізатарам нашага мерапрыемства, — расказаў Мікола Бушко, старшыня Фонду «Царкоўная музыка» ў Гайнаўцы, які арганізуе «Ператоча» ў супрацоўніцтве з Белавежскім асяродкам культуры.

Дырэктар БАК Марк Зубрыцкі выступіў таксама на сцэне як мастацкі кіраўнік і акампаніятар белавежскага беларускага калектыву «Ручаёк», які выступіў першым з цікавым беларускім эстрадным рэпертуарам, што вельмі спадабалася публіцы.

— «Ператоча» — першае вялікае мерапрыемства ў Белавежы з часу спынення імпрэз з-за каранавіруса. Мы, згодна з санітарнымі патрабаваннямі, выдзелілі пляцоўку для 80 чалавек. Аднак асобы зацікаўленыя выступамі на сцэне таксама стаяць і шпацыруюць па-за пляцоўкай. Чарговай пленэрнай імпрэзай у Белавежы будзе беларускае мерапрыемства «Рознагалоссе», якое ладзіць наш асяродак культуры. Нам важна, каб дзейнічаць у дазволеных рамках, паколькі ў нашых мерапрыемствах прымае ўдзел многа турыстаў з розных рэгіёнаў Польшчы. Наш калектыў «Ручаёк» выступае сёння з беларускімі песнямі другі раз у гэтым годзе. Першы раз мы запрэзентаваліся ў час беларускага фэсту ў Ягадніках, а сёння выступаем на «Ператочы». У адным і другім выпадку важна, каб цікава паказаць наш песенны рэпертуар, — сказаў дырэктар Белавежскага асяродка культуры Марк Зубрыцкі.

— Мы, як прадстаўнікі Белавежы, штогод выступаем на «Ператочы» з беларускімі творамі перад турыстамі, якія састаўляюць вялікую частку публікі. Мы стараемся зацікавіць публіку нашымі прыгожымі песнямі, якія ў нас спяваліся здаўна, — сказалі члены калектыву «Ручаёк», якія пасля выступлення на сцэне прыйшлі ў амфітэатр, каб паглядзець іншых выканаўцаў.

Пасля «Ручайка» жніўныя і сенакосныя песні выканала Кацярына Ціханюк са Збуча. Яе неапрацаваны, аўтэнтычны фальклор таксама спадабаўся публіцы як мясцовая адметнасць здаўна характэрная рэгіёну Белавежскай пушчы.

— Я выконваю аўтэнтычныя песні без акампанементу. Так спявалі ў нас у мінулым. Гэта намнога больш складана, чым спяваць пад акампанемент. Выступаю з песнямі, якія навучылася спяваць ад сваёй мамы ў Навінах. Калі я выйшла замуж у Збуч, тут найчасцей маладыя спявалі ў час вяселляў, хрысцін і сямейных сустрэч. Мы ў Збучы заснавалі калектыў, які выконваў даўнія песні. «Збучанкі» выступалі дваццаць гадоў. Зараз я на сцэне спяваю сола. Аўтэнтычнага фальклору зараз прэзентуецца штораз менш, але варта паказваць яго, каб іншыя ведалі, як у мінулым спявалася, якія былі мелодыі і тэксты. Мерапрыемства адбываецца тут быццам на ператочы, перад токам у клуні, дзе папабапал складвалі збожжа і сена. Мікола Бушко папрасіў мяне заспяваць даўнія жніўныя і сенакосныя песні. Падчас маёй маладасці жанчыны спявалі такія песні ў час працы, вяртаючыся з поля і на лавачках, — распавяла Кацярына Ціханюк.

Падчас сёлетняга «Ператоча» пашанцавала з надвор'ем. Было сонечна і цёпла. Сярод публікі найбольш было асоб сярэдняга і сталага ўзросту. Прыбылі таксама бацькі з маленькімі дзеткамі. Моладзь слухала музыку стоячы. Выступленні глядзелі таксама людзі, што сядзелі далей ад сцэны за столікамі пры ларках з фаст-фудамі. Можна было таксама купіць белавежскія і прывезеныя звонку сувеніры і ласункі. Жанчыны з Гуртка вясковых гаспадынь «Ліпінянкі» з Ліпін прыбылі на «Ператоча», каб сабраць сродкі на лячэнне цяжка хворага Якуба з Гайнаўкі.

— Мы прапануем салодкі пачастунак, частуем кавай і гарбатай, а асобы, якія карыстаюцца нашай прапановай, укідваюць у скарбонку грошы. Па прычыне каранавіруса не адбудзецца бульбафэст у Ліпінах, паколькі не ведаем, якія будуць умовы арганізацыі пленэрных мерапрыемстваў у пачатку верасня, — заявіла старшыня аб'яднання «Крыніца» ў Ліпінах Кацярына Якубоўская, якая таксама дзейнічае актыўна ў гуртку гаспадынь.

Па-акцёрску выступіў беларускі калектыў настаўніц «Світанак» з Прадшколля № 14 з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Беластоку, які ў Белавежы захапіў публіку аўтарскай аранжыроўкай беларускіх песень.

— Калі мы сюды прыехалі, адчулі спакой у сэрцах, так як можа адчуваць сябе чалавек, які апынецца ў сярэдзіне Белавежскай пушчы. Мы ў асноўным спяваем народныя беларускія песні ў сваёй аўтарскай аранжыроўцы, але выконваем таксама аўтарскія песні. Мы цяпер перарабілі крыху наш аўтарскі твор «Маладасць», які паўстаў на словы верша Юркі Баены, — сказалі члены калектыву «Світанак» з Беластока Анна Бабік, Альжбета Баравік, Данута Тымашэвіч і Віка Кацюбайла, якая з'яўляецца іх мастацкім кіраўніком.

Цікава запрэзентавалася з польскім рэпертуарам «Курпёўская капэла» з Ломжы, а з літоўскім — фольк-капэла «Liutauras and Company» з Вільні, якія карысталіся народнымі інструментамі. Клезмерскі калектыў «Штэтл» з Варшавы ўдала запрэзентаваў яўрэйскія творы, якія да Другой сусветнай вайны спяваліся ў невялікіх гарадках Польшчы. Калектыў песні, музыкі і танца ромаў «Раманца» з Ольштына зацікавіў публіку энергічнай і маладычнай ромскай музыкай. Апошнім займальна запрэзентаваўся калектыў «Сувенір» з Беластока, які ў цікавай аранжыроўцы выканаў беларускія творы.

— Мы раней выступалі пад назвай «Кошыкі», а цяпер спяваем як калектыў «Сувенір» з Беластока. У 1985 годзе на фестывалі ў Зялёнай-Гуры я выступіў з калектывам «Колакал». Занялі мы там трэцяе месца і атрымалі бронзавы самавар. Гавару вам пра гэта таму, што нашы выступы апісваліся ў тыднёвіку «Ніва», — заявіў Міраслаў Аляксейчук з «Сувеніра».

— Мы выступаем на адкрытых канцэртах і закрытых мерапрыемствах, а таксама спяваем на вяселлях. Першы раз выступаем на «Ператочы». Будзем спяваць па-беларуску, але адзін твор выканаем на грэчаскай мове. Амаль палову нашага рэпертуару складаюць беларускія песні, але мы спяваем таксама на шасці іншых мовах, — заявіў Андрэй Жамойда з беластоцкага «Сувеніра», які так захапіў публіку, што тая рашылася застацца на «Ператочы» амаль да поўначы.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**


Калектыў «Ручаёк» з Белавежы


Фольк-капэла «Liutauras and Company» з Вільні (Літва)


«Курпёўская капэла» з Ломжы


Калектыў «Світанак» з Беластока


Кацярына Ціханюк са Збуча

# „Нягледзячы на мінулае, мы верым і зараз”

## — Беласток напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі.

**На працягу апошняга тыдня ў Беластоку дзясяткі прадстаўнікоў беларускай дыяспары ды жыхароў горада сустракаліся на акцыях, каб выказаць салідарнасць са сваімі суайчыннікамі і суседзямі. Плошча Касцюшкі ці вуліца Электрычная, дзе знаходзіцца Генеральнае консульства Рэспублікі Беларусь, запаўняліся бел-чырвона-белымі сцягамі і песнямі людзей, якія вераць у перамены ў Беларусі, нягледзячы на вынікі прэзідэнцкіх выбараў.**




За апошні месяц жыхары Беластока напэўна больш пацікавіліся тым, што адбываецца за ўсходняй мяжой і лепш пазнаёміліся з беларускай дыяспарай Беластока, якая не такая маленькая. Прэзідэнцкая кампанія, а з ёй затрыманні,ператрусы і арышты палітычных апанентаў кіраўніка дзяржавы Аляксандра Лукашэнкі хвалявала палітычных і эканамічных мігрантаў, якія апынуліся ў сталіцы Падляшскага ваяводства. Таму ў час акцый, якія прайшлі на Плошчы Касцюшкі (04.08) і пад беларускім генконсульствам (07.08) выказвалі свой супраціў для палітыкі і тэрору, з-за якога трэба было ім пакінуць радзіму.

— Я быў на акцыях у Беларусі ў 2004, 2006, 2007 і 2010 гадах. Усе добра памятаем, што там адбылося, — сказаў Юра ў час акцыі на Плошчы Касцюшкі. — Я не меў выхаду, трэба было ўцякаць з Беларусі. Усё-такі кожны раз хочацца верыць, што ўсё будзе добра, што ўсё памяняецца. Нягледзячы на мінулае, мы верым у гэта і зараз.

Дэманстрацыя, якая прайшла 4 жніўня на Плошчы Касцюшкі, была сарганізавана дэпутатам Робертам Тышкевічам і Беларускім домам у Варшаве. Яго старшыня Алесь Зарэмбюк нагадаў прысутным, што Беласток і Падляшша заўсёды падтрымлівалі Беларусь у яе дэмакратычных памкненнях:

— Беласток, гэта шматкультурны горад, у якім пражываюць розныя нацыі. У час акцыі, якія тут праходзілі, не было ніякага негатыву, не было нікога, хто запярэчыў бы гэтай акцыі. Беласток і Падляшша падтрымліваюць дэмакратычную і незалежную Беларусь.

Нягледзячы на неспрыяльнае надвор’е, у дэманстрацыі прыняло ўдзел некалькі дзясяткаў чалавек — беларуская дыяспара, дэпутаты парламента, чыноўнікі мясцовага самакіравання, прадстаўнікі беларускай меншасці, актывісты і жыхары горада. У руках удзельнікаў былі сцягі Беларусі, Польшчы і Еўрасаюза. Усе скандавалі «Solidarni z Białorusią», «Жыве Беларусь».








— Я гляджу на гэта, што адбываецца ў Беларусі з гордасцю і сумам, што сам не магу ва ўсім гэтым удзельнічаць, — сказаў Якаў Бык. — Калі я вярнуся ў Беларусь, мяне пасадзяць. Стараюся дзейнічаць тут, за мяжой. Хачу паказаць, што мы не проста з’ехалі і адрэзаліся ад радзімы, а ўвесь час сочым за падзеямі і перажываем.

На думку Роберта Тышкевіча акцыя ў цэнтры горада была доказам салідарнасці з суседзямі, у якіх абуджаецца пачуццё грамадскай супольнасці.

— Менавіта напярэдадні выбараў нам трэба было выразна выказаць свой супраціў для палітыкі Лукашэнкі, — сказаў пасол Сейма Роберт Тышкевіч. — Тая акцыя паказвае, што мы ведаем пра сітуацыю беларусаў у Беларусі, думаем аб гэтым і ніколі іх не пакінем адных. Ужо час, каб Польшча вярнулася да ролі актыўнага ўдзельніка ўсходняй палітыкі. Мы верым у гэта, што працэс, які пачаўся ў Беларусі, ужо не спыніцца. Муры рухнуць. Беларусь будзе свабоднай і ніхто гэтага не затрымае.

Беларусаў у іх барацьбе за правы чалавека і дэмакратыю падтрымаў таксама кіраўнік Руху «Polska 2050», экс-кандыдат у прэзідэнты краіны Шымон Галоўня. Яго заклік сабраў 7 жніўня перад генконсульствам дзясяткі людзей, якія не пагаджаюцца з цяперашняй палітыкай кіраўніка Беларусі. Падчас акцыі выступілі беларускія і польскія актывісты.

— На жаль і ў Польшчы, і ў Еўропе ніхто не змог хутка адрэагаваць на тое, што адбываецца ў Беларусі, — адзначыла Катажына Пэлчыньска-Налэнч з руху «Polska 2050». — Мы занадта заняты гэтым, што адбываецца ў нас. Зараз такі час, што мы свае праблемы мусім адкласці ўбок і салідарызавацца з беларусамі. Справа, за якую яны змагаюцца, важная для Беларусі, добрая для Польшчы і для Еўропы.

Падчас акцыі пад беларускім генконсульствам у Беластоку польскія і беларускія актывісты праспявалі культавую песню «Муры», якая і зараз аб’ядноўвае людзей у змаганні за сваю свабоду. Менавіта загаловак культавай песні стаў адначасова лозунгам канцэрта ў беластоцкім клубе «6-сцян» напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі: «Муры рухнуць — Жыве Беларусь!». На сцэне выступілі я гурты «Ilo&Friends», «Starsabout», Seasonal, Наста Някрасава. Была таксама музыка беларускіх гуртоў, якія падрыхтавалі свае відэазапісы да канцэрта. Мерапрыемства было трансляванае па інтэрнэце ў сацыяльных сетках, на сайце Радыё Рацыя і тэлеканала Белсат. Падчас канцэрта прагучалі запісы са словамі падтрымкі беларусаў. Канцэрту спадарожнічалі размовы пра сітуацыю ў Беларусі.

Як інфармавала Беларускае Радыё Рацыя ў нядзелю 9 жніўня перад беларускім генконсульствам у Беластоку ў чарзе чакала паўтысячы людзей, якія прыйшлі аддаць свой голас.

— Зараз такая сітуацыя, што прачнуліся людзі, якія дваццаць гадоў спалі, бо ўбачылі, што сённяшняя ўлада ставіць пад пагрозай не толькі існаванне незалежнасці нашай краіны, але проста фізічнае існаванне людзей, — сказаў пасля акцыі на Плошчы Касцюшкі Анатоль Міхнавец. — Я адмыслова прыехаў у Беласток, бо мы зараз хочам арганізаваць беларускую дыяспару ў Польшчы. Робім платформу пад назвай «Талака-2020». Усіх туды запрашаю. У нас ёсць канкрэтныя ідэі і прапановы дзейнасці. Мы можам нешта вырашыць толькі тады, калі будзем арганізаваныя.

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі


# Цяжкія канікулы!



*Аляксей Трубкін з дачушкай Басяй*

— Што рабіць, каб хутчэй зляцеў час? — спытала адна вучаніца.

— А што, хочацца ў школу?

— Яшчэ як, вельмі, вельмі хочацца...

Як стамляе чаканне і няўпэўненасць, відаць па сёлетніх канікулах. Усіх турбуе пытанне: ці з верасня пачнецца нармальная школа? Шмат дзяцей моцна па ёй засумавала. Навука, аднак, прыемная рэч. Дзякуючы ёй сэнсоўна думаем пра жыццё, чагосьці хочацца...

— Цяжка адпачыць у такія канікулы, — кажа наша сяброўка, — калі кожны дзень чуеш пра ўсё большую колькасць захворванняў на каранавірус. Ці гэта не памяшае вярнуцца ў школу? Ці далей прыйдзецца абмежавацца да дыстанцыйнага навучання?

— Некаторыя хваляць такі спосаб навучання. Кажуць, што менш навукі. А зараз канікулы. Не лепш на хвіліну забыцца пра школу?

— Але школа — гэта таксама сябры. А зараз усе раздзяліліся. Нават фейсбук перастаў цікавіць. Мала хто ставіць здымкі з адпачынку. Да таго, — дадае наша сяброўка, — трэба вяртацца да масак, а з такой «аздобай» на твары нідзе не будзеш сабой хваліцца...

Так ці інакш, канікулы ў час пандэміі — цяжкая справа. А вы як думаеце? Ці засумавалі па школе? Пішыце нам! Будзе цікава і час хутчэй зляціць.

**(гак)**

# Міфы
## старажытных беларусаў

**КАРШУН** — птушка, якая была для нашых продкаў сімвалам драпежнасці і рашучасці. Такім словам назвалі забіяку ды казалі пра яго: Ён паляцеў як каршун! Драпежныя якасці гэтай птушкі настолькі ўражвалі старажытных беларусаў, што яны верылі ў такі рытуал. Вельмі сачылі, якое пер’е трэба пакласці ў падушку, на якой кладзеш галаву. Калі ў ёй пакласці каршуновае пер’е, то з яе ўцячэ пер’е ўсякіх іншых птушак. Пер’е каршуна пажадана было пакласці ў падушку ваярам, якія выпраўляліся ў крывавыя паходы.

І яшчэ каларытная цікавіна: людзі лічылі, што каршун гэта зязюля, якая пасля Пятра перастала кукаваць. Зязюлі непрыкметна знікалі з поля зроку чалавека, а замест іх з’яўляўся менавіта падобны на іх малады каршун.

На Падляшшы больш вядомая назва — шуляк. Часам каршуна памылкова блыталі з каняй, якой Бог, па народных уяўленнях, забараніў піць ваду з вадаёмаў ды яна была вымушана піць толькі дажджавую ваду. Гэта было пакаранне за тое, што пасля патопу, яна адмовілася дапамагаць іншым птушкам чысціць мора. Ды не выпадкова, крык каршака звязвалі з блізкім надыходам дажджу.

Каршун часта прыносіў шкоду нашым продкам, нападаючы на курэй, таму іх гналі ад двароў і знішчалі. Супраць каршуна ў нашых продкаў існавала шмат засцерагальных абрадаў. Асабліва квітнела слоўная магія. Іх напрыклад на Каляды называлі «галубамі», праз гэта засцерагаліся перад іх агрэсіяй. Сувязь між хатнімі птушкамі і каршунамі даволі цесная ў фалькьлоры. Людзі, напрыклад, калі зламаліся на сваіх гадунцоў, крычалі: Каб вас каршун пабраў! Каршун апынуўся і ў народных лаянках. Пра нелюбімага чалавека ў нас гаварылі так: Ах ты, каршуновае мяса!

*(Адрэзак на аснове «Беларускай міфалогіі для дзяцей»)*

**гак**

# УВАГА КОНКУРС!
## № 33-20

**Каля хаты ў садочку**
**між зялёных лісточкаў**
**паглядзі:**
**Хоць прывабна пазіраюць,**
**сэрцы каменныя маюць**
**В....**

**(з народнага)**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 22 жніўня 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 29: ліпа. Узнагароду, каляровыя алоўкі, выйграла Дыяна Іванюк. Віншуем!**

## Хлопчык Лазарка

Ходзяць людзі па Беластоку,
і свае, і прыезджыя,
як хадзілі год столькі,
па справах, і незалежныя,
жылі, прадавалі, вучыліся,
будавалі, куплялі і ткалі,
кармілі, лячылі, маліліся,
дзетак сваіх гадавалі.
Гоман стаяў у Беластоку
моў размаітых тутэйшых,
а гаманілі ўсе з толкам,
не выбераш моў разумнейшых,
бо дагаворышся байкі,
калі зразумець хочаш суседа,
на Баярах ці на Ханайках,
на вуліцы Добрай ці Сеннай...
Марыць Лазар: доктарам буду,
лячыць буду вочы бацькам і іх дзецям,
І такую нам мову здабуду,
каб маглі зразумець усе на свеце,
адну мову. Людвік-Лазар ідзе,
той маленькі, з кнігай у школу,
хочаш, сам цябе падвядзе:
руку дай, усміхніся наўкола!

**Міра ЛУКША**

## Размалюйце!

# О, мой нязводны радавод!

Генеалагічнае дрэва — мы яго добра ведаем! Яно паказвае сувязі ў выглядзе разгалінаванага дрэва. Кожнаму з вас, хто шануе продкаў, варта адправіцца ў падарожжа па сямейнай памяці. Многія кажуць, што якраз там адшукалі саміх сябе. Няхай дапамогай у гэтай задачы будзе малюнак (паводле Алены Шалімы). У каранях дрэва напішыце свае прозвішча, на ствале намалюйце герб свайго роду (дазваляецца фантазіраваць), на галінках пазначце бацькоў, дзядуль і іншых сваякоў. А да працы хай натхняе вас верш Алеся Пісьмянкова.

### *Продкі*

*Калі марнею ад нягод*
*і сэрцу цесна,*
*Я ўспамінаю радавод*
*і продкаў песні.*
*Яны ідуць за годам год*
*з мячом і плугам.*
*О, мой нязводны род,*
*Ён моцны духам.*
*Імёны памяць берагла,*
*вяла праз церні,*
*Каб я не сеяў зла,*
*а толькі — зерне.*
*Да іх іду я зноў і зноў,*
*ім веру свята,*
*Таму й вяду сваіх сыноў*
*да іх на раду.*

# Верашчака



Час на асаблівую страву, якая заўсёды асацыюецца з беларускай кухняй. Паводле гурманаў верашчака ўплывае не толькі на смакавыя рэцэптары, але моцна падбадзёрвае і дае прыток энергіі. Цікава, што страву дзе-нідзе называюць «чорнай поліўкай» і яе падаюць адкінутым жаніхам. Мы дакладна не ведаем ці Адам Міцкевіч якраз пісаў пра такую верашчаку ў «Пану Тадэвушу», паколькі ў Беларусі існуе шмат варыянтаў гэтай стравы. Мы прапануем вам зэльвенскі рэцэпт, паводле «Беларускай кухні» Юры Качука.

**Складнікі:**
*700 грам свіных рабрын,*
*100 грам сала*
*1 цыбуліна*
*0,5 літра бурачнага квасу*
*150 грам жытніх сухароў*
*вострыя чырвоны перац*
*духмяны перац*
*лаўровы ліст*
*соль*

Свіныя рабрыны насекчы, пасаліць. Абсмажыць на патэльні з салам. Уліць бурачны квас, закіпяціць, дадаўшы чырвоны перыц. Усыпаць молатыя жытнія сухары, размяшаць у квасе. Верашчаку можна падрыхтаваць і з ялавічыны, а замест бурачнага дадаць хлебны квас. Смачна есці! **(гак)**

# Польска-беларуская крыжаванка № 33-20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 29-20:**
Плыт, статак, хмара, жужалка, жук, фарба, муха, Іза, Ян, выбары, Ада. Юха, журы, рука, стаж, яр, Афіны, вадалаз, краса, баабаб, аўра.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Юля Гаворка** і **Мілена Федарук.** Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Lato / Leśniczy | | Gen | Okno | Trawa / Klasa | | Wszyscy | Róża | | | |
| | | | | Liryk | | | | | Żar / Żal | |
| | | Pęk słomy | | | | | News | | | |
| | Sierpień | | | | | | | | Rumianek | |
| | Morze | | | | | | | | Śmiecie | |
| | | | | | | | | | | |
| | Taksówkarz | | | | | | | | Bierz | |

# Суды чалавечыя і санацыйныя

**(ч. 8)**

Апрача сваіх духовых абавязкаў бацюшка Мірон Сянкевіч цікавіўся і палітыкай, і супрацоўнічаў з паліцыяй. Гэта быў вельмі дужы чалавек, як Галіяф, яму не было роўных. І многім запамяталася вельмі цікавая гісторыя, як ён тафілаўскіх малайцоў сваёй дубінкай хрысціў побач царквы ўвечары. І тое, што напішу, гэта істотная праўда; бо яе мне расказаў калісьці адзін з гэтых малайцоў — Іван Тапор у сваёй хаце, калі я яму, як лістаноша, занёс «Ніву». А я з ім любіў пагаварыць. І я так здалёк задаў пытанне: «А як там калісьці было каля царквы з бацюшкам Міронам, якая гэта была барацьба? Хто каго перамог?» Дзядзька Іван мне адрэзаў:

— Відаць ты ўжо нешта чуў, дык слухай уважна. Мы ўтраіх, я, Тарас Жак і Іван Галка, ужо выпіўшы, ішлі дамоў і каля царквы заспявалі салёную песеньку, і то пра бацюшку. І не прыкмецілі, што ён за брамай стаяў з калом. Ён найперш звярнуў увагу: «Не пойте дурную песнь, ведь пост теперь и вы напротив божьего храма». А мы яшчэ галасней загарлапанілі. Тады бацюшка з дубінкай выскачыў да нас і давай нас дубасіць. Я дастаў па спіне тры разы «гасцінца», аж упаў на зямлю.

Ну, вядома, гуманны чалавек не будзе ляжачага лупцаваць, так паступіў і Мірон. Хрысціў Тараса, і так ён дастаў 16 ударaў па спіне. Таксама і Галку не мінала Міронава палка. Нашы малайцы аднак мелі сваю асобую і рэдкую салідарнасць, бо ўцякалі гуртом, адзін побач другога, каб пароўну дастаць «пачастунак» з рукі Мірона. Аж рэха неслася навокал, як дубінка сваё рабіла. А яны далёка і не адбеглі, і ўсе пачулі словы бацюшкі: «Я вас, жулікі, навучу розуму, і вас не міне Картуз-Бяроза!» І малайцы злякаліся, каб Мірон не заявіў паліцыі аб іх дурным пачыне. І на другі дзень іх жонкі панеслі падарункі бацюшку, і прасілі прабачэння ім і іхнім мужам. Бацюшка дараваў, але сказаў: «Калі паправяцца са здароўем (бо ляжалі ў пасцелі дагары спінамі) дык няхай прыедуць са сваімі вазамі і вывезуць з хлява гной на маё поле». Так і зрабілі нашы героі і цэлы дзень вазілі гной па-поснаму, бо ніхто іх не накарміў, калі закончылі сваю прыемную і павучальную работу. Іван Галка не прысутнічаў у вывазцы гною ў бацюшкі, бо яго маці Устынія была братчыцай у царкве.

Калі я пачуў гэту гісторыю ад Івана Тапора, мяне ахапіў смех, але сілай волі стрымаўся і сказаў: «Аднак гэта была мудрая навука для вас траіх і думаю, што мала вам балела, калі бацюшка вас «хрысціў» дубінкай і гэта быў свайго роду гонар, як шанаваць сваю веру і як сябе весці». Іван адказаў: «Мы пад'язджаем і жартуем, а ці балела? У першую ноч я мусіў ляжаць у ложку на жываце, бо іншага выхаду не было».

Калі я быў лістаношам, то часта сустракаўся з Іванам Галкай, але не адважыўся спытацца ў яго пра гэту гісторыю. А гэта быў чалавек паважаны людзьмі, добры і зычлівы, ветлівы і на той час адзін з найлепшых гаспадароў вёскі. А тое, што было калісьці, гэта ўжо свайго роду гісторыя.

Яшчэ вярнуся да дзядзькі Івана Тапора з Тафілаўцаў, з якім я шчыра сябраваў, быўшы лістаношам. Ён выпісваў «Ніву» і чытаў яе, у тым ліку і мае допісы. У міжваенны час ён патрапіў у сваёй вёсцы ўстанаўляць парадкі і лад. І меў моцныя, як кажуць, плечы і падтрымку; яго дзядзька Дзмітры быў дужы і ваяўнічы. У царскі час, кал служыў ён у войску, у яго роце ніхто не мог рускую цяжкую вінтоўку, узяўшы за канец штыка, гарызантальна прама падняць угару і каб яна вісела ў паветры; а салдат Дзмітры мог гэта



лёгка ўчыніць і гэты чалавек быў на свой спосаб граматны, і ў штабной службы ды ў канцылярыі сваёй роты быў нават пісарам. Брат яго Канстанцін (бацька Івана) таксама быў дужы, але спакойны, і як я ўжо пісаў, ён у Дубічах таксама закончыў царкоўна-прыхадскую школу з выдатнымі ацэнкамі і нават настаўнічаў у далейшай глухой вёсцы. Такім настаўнікам быў і селянін гэтай вёскі Ігнат Дзмітрук (ён таксама паспяхова закончыў дубіцкае вучылішча ў свой час). Якія парадкі і лад устанаўляў Іван? Дык вось адзін прыклад:

Аднойчы на забаве Іван з каменем у руцэ спыніў вясёлы карагод і паляцелі з яго вуснаў меладычныя гукі і лаянкі сюды мацьдзь... І прагучала каманда: смірна і ўсе ў адзін рад. Кавалерка ў адзін міг ужо стаяла на выцяжкі і «камандзір» Іван праходзіць па лініі «салдат» і пільна сочыць на кожнага і ў яго вочы, даходзіць да Дэмка і раве: «А чаму твае зырмалі (вочы) моргаюць? Што ты, у войску не служыў?» І сваім кулаком з каменем урэзаў па галаве Дэмка, і кроў пацякла, але «салдат» утрымаўся на нагах. Побач стаяў яго дзядзька Дзмітры. Чаму ахвярай стаў менавіта Дэмка? А таму, што Дэмка быў злодзей і жулік, як ніхто, а яшчэ і насмешнік. У яго быў дэвіз: што вочы бачаць — рукі не праміпуць.

І яшчэ адзін прыклад мужнасці тафілян, то ёсць жыхароў Тафілаўцаў. Аднойчы на панадворку Емяльяна Джэгі пачуліся крыкі і лаянка (тады было нейкае свята); а гэта слабейшы лупцаваў дужэйшага і, схапіўшы калок, загнаў яго на самую печ яго хаты. Гэта была пацеха для тых, хто сядзеў на лавачках насупраць сваіх сядзіб. Тады была такая, лічыць, культура; біліся, а таксама і судзіліся, таму нельга сказаць, што, маўляў, у санацыйнай Польшчы быў поўны беспарадак, анархія, хаос. Не, не так было. Бо і судзілі, і каралі (і то часта замоцна) вінаватых, а радзей невінаватых. Судзілі, і то жорстка тых, хто паглядаў на ўсход, адкуль чакалі вызвалення і райскага жыцця. І дачакаліся... Але пакуль па парадку.

Так, судзілі за хуліганства, і мірыліся, але стараліся пазбегчы ўсялякіх судоў, бо гэтая ўстанова ніколі не карысталася вялікай славай. А павінна быць і існаваць і выдаваць ад сябе належныя справядлівыя прыгаворы. Не савецкія, не гітлераўскія суды — барані Божа ад іх. Хто трохі чытае гісторыю, дык ведае, якім чалавекам быў Андрэй Вышынскі (польскага паходжання), савецкі пракурор; гэта быў проста дзікі звер, хаця на від выглядаў на інтэлігента і вучонага. Колькі ён выдаў на смерць нявінных людзей — не пералічыць. Гэты чалавек быў пазбаўлены сумлення і чалавечнасці, а такіх былі тысячы з дзвюх старон — з боку бальшавізму і фашызму.

Перад вайной строга судзілі тых, хто цікавіўся палітыкай; бралі іх на вока і не шкадавалі ім гадоў зняволення. Але гэта была кропля вады ў акіяне, у параўнанні з савецкім правасуддзем. У Дубічах-Царкоўных існавала камуністычная ячэйка КПЗБ. Належалі да яе многа разоў успомнены Трафім, мае дзядзькі Мяфодзій і пазней Ванька, Рыгор Лемеш (сын багатых на той час бацькоў), Васька Тамашук, Іван Чыквін (брат Арцёма), Арцём Чыквін, Іван Філіманюк.

Майго дзядзьку Мяфодзія дзіўна арыштавалі ў 1935 годзе. Ён меў жаніцца з прыгожай дзяўчынай Тонькай з Грабаўца (яна мела такое самае прозвішча Панфілюк). Яна з маім дзядзькам мела ўжо палавыя зносіны і была цяжарнай, у сваім лоне насіла дзіця, таму спяшаліся да вяселля. Закалолі ў нас вялікага вепрука, нагатовілі каўбас, мяса, купілі гарэлкі і ўсё тое, што патрэбнае, каб з гонарам і з традыцыяй правесці вяселле. А перад гэтым дзядзька мусіў пайсці да бацюшкі Мірона, каб атрымаць так званае прыбрачнае. Бацюшка толькі яму сказаў: «Тебе это не будет нужно». І сапраўды, яно не было нужно, бо ў суботу пад вечар, перад самым вяселлем, арыштавала дзядзьку паліцыя і ў кандалах пагнала ў Бельск-Падляшскі ў сваю камендатуру. А пасля суд і ў выніку дзядзька атрымаў тры гады цяжкай турмы. Сядзеў у Беластоку.

Ясна, гэта была правакацыя, каб ударыць у самае чулае, уражлівае месца — каб кахаючая шлюбная прыгожая пара не з'ядналася. І так сталася. Тонька не чакала Мяфодзія, бо лічыла, што ён з «чорным білетам» далёка не паедзе і нідзе працы не знойдзе, а не падумала, што Мяфодзій, як вельмі добры сталяр, усюды знойдзе працу па сваёй прафесіі і заробіць на хлеб. І не падумала (а зноў хто тады мог падумаць?), што дні польскай санацыі ўжо палічаны. Тонька выйшла замуж за нейкага гайнавяніна, нарадзіла прыгожую дачушку і ахрысціла яе імем Ніна. Калі яна падрасла, дык яе маці Тонька ўсё ёй расказала, які яе радавод і хто яе сапраўдны бацька. І яна з намі своялася. Жыве яна ў Варшаве і з маёй сястрой, якая таксама жыла ў сталіцы, былі дружныя. Ніна была на пахавінах маёй сястры некалькі гадоў таму. Ніна мне таксама прыходзілася дваюраднай сястрой. Даўно аўдавела; яе муж быў выдатным інжынерам-навукоўцам у галіне авіяцыі і мог лятаць самалётам, але не лятаў. Яго праца гэта чарцяжы і планы для новых бяспечных крылатых машын. У яго кабінеце стол ад іх угінаўся.

Таксама Грышу Лемеша судзілі. Атрымаў тры гады турмы, сядзеў у Беластоку. Як і майму дзядзьку, так і Грышу паліцыя не шкадавала сваіх палак і дзікіх здзекаў над імі. Аднак яны гэта вытрымалі і не адракліся сваёй ідэі і пераканання. А вось Іван Хіліманюк пасля арышту, калі яго збівалі да непрытомнасці, не вытрымаў і духова пахіснуўся, кажучы: «Я адракаюся ад камунізму і веру ў Бога». І тут я не здзіўляюся яго рашэнню. Аднак і ён паўгода прасядзеў у турме, пакуль яго выпусцілі на свабоду.

Хачу прыпомніць, што Трафім быў выдатным краўцом і многім шыў касцюмы, кажухі, вопратку і меў добрую швейную машыну маркі Зінгер. Жыў ён самастойна і незалежна з жонкай Марусяй і сынам Толікам. І аднойчы бацюшка Мірон у яго заказаў пашыць новы касцюм. Трафім пашыў яму прыгожа і нядорага, аж святар нават здзівіўся чаму так «дешево». Мой сваяк толькі сказаў яму: «В плохую минуту поддержите меня». Святар усё зразумеў і сказаў: «Я сдержу свое слово». І стрымаў слова, бо і Трафіма прыехалі арыштаваць паліцыянты з Бельска. Але найперш завіталі ў дом Мірона, а той адразу ім заявіў кажучы: «Адчапіцесь ад гэтага чалавека, бо ён не вінават». І тыя пуста вярнуліся ў сваю камендатуру.

А людзі жылі, раслі, старэлі, уміралі, як гэта звычайна, і знаходзілі свае месцы радасці, кахання, любові. У нашай маляўнічай, казачнай, таямнічай Краіне і яе прыродзе, і проста адкрытых душою людзей — гэта наша багацце. Мільёны грошай з ёю не могуць раўнавацца. Гэта і наша слова на векі вякоў...

А яшчэ скажу гісторыю пра айца Мірона. Аднойчы ён ехаў фурманкай з кучарам хіба ў Грабавец на нейкае сваё служэнне. На дарозе адзін грабаўляк на ровары, быўшы пад хмяльком і пад уплывам тавырышаў з-за ўсходу, спыніўся і стаў лаяць бацюшку і пагражаць яму кулаком. Ён думаў, што на ровары лёгка ўцячэ і калі бацюшка саскочыў з фурманкі, ён скочыў на ровар і гайда наперад, але дарога пясчаная, перакуліўся з ровара ў пясок, і бацюшка яго таксама па-свойму «ахрысціў»; на што той заслужыў. А ровар Мірон укінуў на фурманку. Мо пасля і аддаў яму гэту машыну, не ведаю...

(працяг будзе)

Мікалай ПАНФІЛЮК

# «Прымацкая бяседа»
## анлайн у Міхалове і ўсюды

**31 ліпеня. Замест амфітэатра — невялікая зала ў Гмінным доме культуры. Замест гледачоў — вочы камер і інтэрнэт-трансляцыя. «Прымацкая бяседа» — X Фестываль беларускай музыкі — сёлета анлайн і з глядацкімі зонамі. Мерапрыемства паказвае багацце беларускай музыкі і штогод збірала натоўпы прыхільнікаў у амфітэатры каля Міхалоўскага вадасховішча.**



«Прымацкая бяседа» — гэта прыклад аднаго з мясцовых свят — свят, якіх жыхары чакаюць круглы год. Нягледзячы на велізарныя абмежаванні, самыя адданыя прыхільнікі мерапрыемства добра гуляюць, не зважаючы ні на што.

— Сёлета, нягледзячы на пандэмію, чуем самыя лепшыя калектывы з Польшчы і Беларусі", — кажа заснавальнік мерапрыемства і бургамістр Міхалова Марк Назарка: — Калісь былі фальклорныя «Спатканні з „Прымакамі"», а ўжо сёлета вярнулася „Прымацкая бяседа". Толькі з-за эпідэміі вырашылі зрабіць імпрэзу дыстанцыйна. Думаю, што гэта добра. Але калі „Прымацкая бяседа", як калісь, бачыш рэакцыю людзей, бачыш, падабаецца ім ці не. Але шляхам інтэрнэту маем магчымасць паказаць этнакультуру шырэй для людзей. Гэта выключна цікавая прапанова для ўсіх, хто хоча пазнаёміцца з фальклорам памежжа і яго разнастайнасцю. Сёлета спаўняецца дзесяцігоддзе, і выступаюць лепшыя калектывы з Польшчы і Беларусі.

Мерапрыемства трансліравалася ў інтэрнэце праз канал Youtube. Кожны можа пачуць любімыя беларускія гурты.

— Сёлетняе выданне імпрэзы адрозніваецца ад усіх папярэдніх. І не толькі таму, што гэта дзясятае выданне, але і з-за ўмоў, звязаных з пандэміяй каранавіруса. Мы мусілі змяніць формулу мерапрыемства на анлайн, — тлумачыць Павел Азябла, дырэктар Гміннага цэнтра культуры ў Міхалове. — Канцэрт запісваем у поўным аб'ёме ў студыі GOK Records у Міхалове, транслюецца ў інтэрнэце праз канал YouTube. Трансляцыя пачалася ў 18:00. Канцэрт дазволіць стварыць альбом «Prymackaja Biasieda 2020», які мы будзем распаўсюджваць бясплатна.

Дзеля добрай і бяспечнай забавы канцэпцыя арганізацыі інтэрнэт-фестывалю, у якім прадугледжаны зоны гледачоў да 150 чалавек, размешчаныя ў гміне Міхалова і суседніх гмінах, прадугледжвае захаванне ўсіх мер асцярогі — неабходна падпісаць заявы аб здароўі, захоўваць дыстанцыю, надзець маскі на нос і вусны. Цэнтральная зона гледача размешчана на плошчы побач з рэстаранам «Гаспода» ў Міхалове. Месца абсталявана вялікім прафесійным экранам і гукавой сістэмай, гастранамічнай зонай і шэрагам іншых атракцыёнаў. Уваход на пляцоўку для гледачоў на плошчу «Гасподы» бясплатны. Аднак ёсць абмежаванне да 150 чалавек (вырашае чарга).

Зоны для гледачоў знаходзяцца ў «Заездзе пры мяжы» (Станцыя Валілы), у «Extreme Water» на пляжы на Семяноўцы ў Старым Двары (Нараўчанская гміна), у Гмінным культурным цэнтры ў Орлі, у Гарадскім цэнтры анімацыі культуры ў Васількаве і ў Цэнтры беларускай культуры ў Ваўкавыску ў Беларусі.

Падчас мерапрыемства, акрамя праслухоўвання добрай музыкі і ўдзелу ў конкурсах, слухачы і гледачы дасылаюць прывітанні, якія з'яўляюцца падчас анлайн-трансляцыі, а некаторыя з іх чытаюць вядучыя.

Арганізатары аб'явілі былі конкурсы з прызамі на самую цікавую футболку з беларускім узорам (70 удзельнікаў), на верш пра «Прымацкую бяседу» (прыйшло 30 твораў аўтараў не толькі з Міхалоўскай гміны) і на самыя цікавыя віншаванні. Узнагароды ўдзельнікі атрымаюць пасля ў ГЦК у Міхалове.





— О, цяпер Ваўкавыск ідзе, — кажа, рассеўшыся на лаве каля «Гасподы», у масачцы, як належна, Андрэй Пятэльскі з Меляшкоў, што з суседам Сярожам Госцікам прыехаў на сваім самаходзіку. Глядзяць на вялікі тэлебім, на якім танцуе і спявае маладзёжны гурт з Ваўкавыска. — А чом яна заказвае па-руску? Мы прыехалі ў гэтую «зону гледача», хоць у Валілы-Станцыю бліжэй. Там па дарозе разрэйдалі дарогу, дык мы ў Гарадку павярнулі на Міхалова. Пачулі мы рэкламу ў тэлебачанні, і рушылі. Гадзіну таму былі ў нашай вёсцы, а ўжо чутна было, як іграюць «Прымакі». Любім усё беларускае, не прапускаем ні адной тутэйшай імпрэзы. Праз гэту «карону» людзі страцілі столькі прыемнасці ад родных імпрэз! Глядзіцца і слухаецца не вельмі, бо гэта не тое, што канцэрт «жывы», і пабачыцца немагчыма з жывымі спевакамі, з суседзямі, знаёмымі, сваякамі. А гэты нашы імпрэзы — і «Басовішча», і «Сяброўская бяседа», і «Прымацкая бяседа», і «Бандароўская гасцёўня», і іншыя — модныя сярод нашых людзей, і харошы паказ для іншых. І вельмі прыемна ўбачыць знаёмыя твары выступоўцаў — дзяўчат і хлопцаў з Гарадка, з Міхалова. Сэрца расце, калі бачым, што наша не прападае, а развіваецца. А ёсць і старэйшы творцы, якіх бачым на сцэне, за столікам з вырабамі не першы раз. Шкада, што гэтыя масачкі... Ну, але ж калі сядзем за лавай ад гасподы, дык і яе здымем.

— Мы на ўсе імпрэзы беларускія ездзім, — кажа Сяргей. — І слухаем Радыё Рацыя, там свае песні, свае людзі выступаюць. Наша спяваюць. О, і імпрэзу адкрываў сам бургамістр Міхалова, важная справа для Міхалова і не толькі.

— Мы пастараемся, каб наша «Прымацкая бяседа» была як сапраўдная, і каб вы добра гулялі, — вітаў жывых і віртуальных гледачоў і слухачоў задумшчык і гуру імпрэзы Юрка Астапчук, намеснік дырэктара цэнтра культуры, зараз і падаўся на сцэну ў доме культуры, на якой засела традыцыйная прымацкая сямейка.

Выступілі таксама гадаванцы галоўнага «Прымака» — Адрыян і Цэзар Данілюкі, Дар'я і Клаўдзія Лук'янчук, Наталля Алексяюк, «Славянская нута» з ГЦК у Міхалове, цэлыя «Белыя крылы» (з братамі Данілюкамі Оля Яроцкая з Гарадка, якая сёлета выбіраецца на медыцыну), «Спявай душа», «Чырвоныя шпількі».

— Якую вялікую добрую работу дзеля беларушчыны робіць Юрка Астапчук! — сказаў дырэктар ГЦК у Міхалове.

Знакаміта выступілі і «дарослыя» ансамблі. Як заўсёды заварожваў «Світанак» настаўніц беларускага садка ў Беластоку, «Вясна». Не адмовіўся прыехаць «Рассяпваны Гарадок» (не было яго ў праграме). Загрымелі з тэлебіма эстрадныя гурты — «МаКсім» з Беластока (кіраўнік Крыстыян Вілента — яны маюць у рэпертуары і беларускія песні, з якімі ахвотна прымаюць удзел у беларускіх фэстах і фестывалях), «Зорка» Янкі Карнілюка, «АС» Славіка Трафімюка, а з Беларусі — «Бяседа» Леаніда Захлеўнага, «Песняры» Рамана Казырава з Мінска, бярозаўскія «Шкляры» Андрэя Барылы, ваўкавыскі «Цвецень" Таццяны Лешчук, ваўкавыскія «Уладары», «Каларыт», «Івіца» Вадзіма Бычка. Сапраўды, жывое беларускае свята, якое ў каляровыя і гучныя рамкі ахапілі «Прымакі»-гаспадары. Файна, што можна гэты канцэрт паглядзець і паслухаць яшчэ не раз... А чулі пераказ нават у Канадзе!

— Я з ансамбля «Славянская нута», — кажа Міраслаў Туроўскі, які са сцэны перадаў прывітанні свайму канадскаму зводнаму брату. Спяваў пра «вёсачку якая вымірае», але ўсё ж жыве, бо ён у яе вярнуўся, а «песня пра яе ліецца звонка». — Я асабіста паходжу з вёскі Канюкі, гміна Заблудаў. — Я жыў калісьці ў горадзе, але дзевяць гадоў таму перасяліўся ў вёску. Мелі мы таксама рабіць фэст 9 жніўня, але па прычыне ковіду не змаглі. Я — солтыс Канюк. Мы ў мінулым годзе зрабілі фэст дзень па Сяброўскай бяседзе, а сёлета не можам, баімося... А мой брат, Генік Канеўскі, калісь рабіў у шахце ў Сілезіі, апынуўся, праз Нямеччыну, Італію ў Канадзе. Я яго 15 гадоў таму наведаў у Таронта. Сустракаемся праз інтэрнэт. Абяцаў я яму прывітанні і песню. Ён і пачуў маё выступленне ў Міхалове ў Канадзе.

Тэлевізійная група з ГЦК Міхалова разам з дырэктарам наведвала зоны гледачоў для запісу кароткіх рэпартажаў з падзеі. Трансляцыя ў інтэрнэце праз YouTube дазваляе атрымаць бясплатны доступ без тэрытарыяльных абмежаванняў, з любых месцаў з доступам да інтэрнэту — кожны можа арганізаваць глядзельную зону нават ва ўласным агародчыку — пра лік гледачоў адразу ці пасля мерапрыемства будзе вядома пасля. Лінк да пераказу: https://youtu.be/Q0k19Rtuotg

Якасьці далі раду добра пагуляць, не лякаючыся ніякіх зараз. Жыве Міхалова!

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

# На Ільяша ў Падбеллі

У нядзельную раніцу, 2 жніўня, рыхтуючы з жонкай сняданак, мы глядзелі на Беластоцкім тэлебачанні трансляцыю праваслаўнай багаслужбы з царквы св. Іаана Клімака ў Варшаве. Прыемна было ўбачыць у тэлебачанні майго шчырага сябра з пачатковай школы ў Малінніках айца д-ра Тамаша Стэмпу. Ён родам з Тапчыкал, закончыў духоўную семінарыю ў Румыніі, а зараз ёсць бацюшкам у Варшаве.

Пасля 8-й гадзіны мы ўсёй сям'ёй сабраліся ехаць на аўтамашыне ў мае родныя Маліннікі. У Малінніках мы былі каля 9:30 і з бацькам і нашай сям'ёю паехалі ў царкву ў Падбелле. Па двух баках дарогі ад Кошак да царквы ў Падбеллі стаяў даўжэзны шнур аўтамашын. Каля царквы было вельмі многа людзей, а ў самой царкве было іх яшчэ больш. Свечкі прадаваў стараста падбелянскай царквы, а заадно мой вельмі добры сябра, вядомы беларускі паэт Юрка Баена. Пры іконе прарока Ілы я паставіў свечкі за маю сям'ю ды выйшаў на двор. Там мы з жонкай і дачушкай сталі ў халадочку ззаду царквы. Мой бацька астаўся ў сярэдзіне храма. Летась надвор'е было сонечнае, цёплае і прыемнае. Ззаду царквы было вельмі мала людзей, пераважна сем'і з малымі дзецьмі. Затое спераду царквы і за агароджай быў вялікі натоўп вернікаў. Настаяцелем царквы св. прарока Ілы ў Падбеллі з 1999 года з'яўляецца айцец Міраслаў Чурак. У царкве адслужылі „Іжа Херувімы" „Верую" і „Ойча наш" і неўзабаве бацюшка выйшаў з чашай. Пасля пачаўся хрэсны ход і вялізны натоўп вернікаў рушыў з царквы. Жанчыны неслі ікону святога прарока Ілы, а мужчыны — харугвы. Потым ішла падбелянская пеўча, якую вядзе матушка Анна Чурак. Дарэчы, хор у Падбеллі вельмі прыгожа спявае і не раз на цароўных фестывалях займаў высокія месцы. Пасля як святары, вернікі і хор тройчы абышлі царкву ў Падбеллі, пеўча заспявала „Многая лета". Перад натоўп народу выйшаў бельскі дэкан, а заадно настаяцель Міхайлаўскай царквы ў Бельску-Падляшскім айцец мітрат Лявонцій Тафілюк, які сказаў пропаведзь. Айцец Лявонцій казаў, што прарок Ілья быў жывым забраны на неба і што ў канцы свету прыйдзе людзей наварочваць на веру ў Бога. Заўважыў ён, што ў гэтым годзе свята прарока Ілы выпадае ў нядзелю, а гэта асаблівы дзень, таму што наш Гасподзь, Сын Божы Ісус Хрыстос менавіта ўваскрэс у нядзелю. Таксама казаў, што на працягу гісторыі праваслаўная вера яшчэ больш перажыла праследаванняў, чымсьці зараз, але ніхто яе не знішчыў. Нават за 70 гадоў існавання СССР камуністам не ўдалося знішчыць праваслаўнай веры. Бацюшка таксама гаварыў, што нягледзячы на тое, што надалей лютуе каранавірус, трэба каб вернікі не забывалі Бога, хадзілі ў царкву ды многа маліліся, таму што толькі шчырая ад сэрца малітва да Бога гэта найбольшае нашае душэўнае лякарства на ўсе нашы жыццёвыя клопаты. Пад канец натоўп вернікаў пайшоў да крыжа, а мы з бацькам традыцыйна пайшлі на страганы купіць святочныя цукеркі. Потым мы ўсёй сям'ёй вярнуліся святкаваць у Маліннікі.

## Калісці на Ільяша ў Малінніках

У халадочку бацькоўскага садка ды пры багата застаўленым святочным стале бацькоў і мяне ўзяло на ўспаміны пра дваццацігадовай даўнасці святкаванні ў гонар прарока Ілы ў Малінніках. У 1990-я гады, калі яшчэ жыла мая бабуля, да нас пад Ільяша прыязджала цётка Надзя і дзядзька Юзік з горада Стшэгам, што каля Вроцлава. Мой дзядзька, хаця паляк, вельмі любіў слухаць песні калектыву «Прымакі», а яго любімай песняй былі «Васількі». Цётка Надзя была вельмі таварыскай асобай і на вёсцы мела вельмі многа сяброўак. У дзевяностых гадах на Ільяша дзядзька Юзік, цётка Надзя і ўся наша сям'я ехала на брычцы, якую цягнуў трактар маркі «Уладзірац». Пасля царквы я ішоў на страганы і купляў касеты з беларускай музыкай, якія пры святочным стале ўключаў на магнітафоне. Пасля вечарам уся сям'я ішла ў вясковы клуб на забаву. Тады ў вясковай рамізе ігралі беларускія гурты з Падляшша. Таксама калісьці да нас прыязджаў з Чахоў-Арлянскіх на веласіпедзе родны брат маёй бабулі — герой Другой сусветнай вайны дзед Валодзя Самасюк. Ён пры святочным стале выпіваў з маім татам і вельмі любіў, калі я на магнітафоне ўключаў беларускія песні. Дзед Валодзя быў вельмі шчыры і добразычлівы чалавек. Ён заўсёды для маёй сястры і мяне прывозіў падарункі. Варта ўспомніць, што так было штогод на Ільяша да 2008 года, таму што тады жыла мая бабуля Марыя Буйнюк-Самасюк. З 2010 года ў Малінніках перасталі ладзіць забавы, паколькі ў нашай вёсцы засталося вельмі мала моладзі. Тадышняя маліннiцкая моладзь раз'ехалася па ўсім свеце, а на вёсцы толькі старыкі асталіся...





## А зараз на Ільяша...

Потым пачалі да нас ездзіць родныя маёй мамы — бацька маёй мамы дзядуля Васька Міранчук (які і ў гэтым годзе быў у нас). Мой дзед таксама як і я — паэт. Відаць, я генетычна пераняў літаратурны талент па маім дзядулю. Усе свае вершы мой дзед піша на нашай роднай падляшскай мове і ведае іх на памяць. Дзеда Ваську прывозяць да нас наймалодшы брат мамы, дзядзька Пеця і яго жонка, цётка Лілія. Дзядзька Пеця вельмі вясёлы і пазітыўны чалавек, вельмі любіць жартаваць. Сёлета святы асаблівыя таму, што мае бацькі ўпершыню сталі дзядулем і бабуляй, паколькі ў нас з жонкай нарадзілася дачушка, а мой дзед Васька ўжо дванаццаты раз стаў прадзедам. Найстарэйшаму ягонаму праўнуку Самуілу ўжо 17 гадоў, а наймалодшай праўнучкай з'яўляецца менавіта наша дачушка Алёнка. Яна — найважнейшая асоба ў нашай сям'і і таму падчас свята Ільяша найбольш увагі менавіта было прысвечана ёй. Свята як штогод мінула вельмі весела дык вельмі сямейна. Таксама надвор'е было вельмі прыгожае і за гэта дзякуй Богу і каб за год усе дачакалі.

**Юрка БУЙНЮК**





Дата з Календара

# 130 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Сака

Беларускі культурны дзеяч, паэт, каталіцкі святар Аляксандр Сак нарадзіўся 14 жніўня 1890 г. у вёсцы Сёгда на Навагрудчыне (цяпер на тэрыторыі Карэліцкага раёна). Паходзіў з сям'і вясковага каваля. Спачатку вучыўся ў народнай, а потым у гарадской школе ў Навагрудку. Потым паступіў у Пінскую рэальную школу, у якой правучыўся тры з паловай гады. У 1907 г. быў арыштаваны і выключаны са школы па падазрэнні ў рэвалюцыйнай дзейнасці. Праз два гады быў выпушчаны на волю з прычыны адсутнасці доказаў вінаватасці.

З 1911 г. Аляксандр Сак вучыўся ў Пецярбургу ў Інстытуце лясной гаспадаркі. У 1913 г. пасля трэцяга курса спыніў вучобу і паступіў у Магілёўскую рымска-каталіцкую духоўную семінарыю ў Пецярбургу, якую скончыў у 1917 г. Гэта быў час, калі каардынатарам беларускіх гурткоў у Пецярбургу быў Бранiслаў Эпімах-Шыпіла. Ён ладзіў сустрэчы на гурткоўскіх сходках, на якіх адбываліся знаёмствы клерыкаў са свецкай беларускай інтэлігенцыяй. Часам такія знаёмствы перарасталі ў цеснае супрацоўніцтва і сяброўства. Так будучыя святары Фабіян Абрантовіч, Аляксандр Сак, Аляксандр Астрамовіч пазнаёміліся, прыкладам, з Янкам Купалам.

Пасвячоны ў святара Аляксандр Сак быў у 1917 г. Душпастырскую дзейнасць ён пачаў у мясцовасці Фашчоўка каля вёскі Мікуліна ў Аршанскім павеце Магілёўскай губерні. Сак удзельнічаў у з'ездзе беларускіх каталіцкіх святароў у Мінску, які прайшоў 24-25 траўня 1917 г., быў сябрам саюза ксяндзоў-беларусаў.

З 19 снежня 1918 г. Аляксандр Сак жыў у мястэчку Сянно (зараз раённы цэнтр Віцебскай вобласці). У 1919-1921 гг. быў пробашчам у Свяцілаўіцкім касцёле і адміністратарам у Шклове. Духоўныя ўлады Магілёўскай архідыяцэзіі ў 1922 і 1924 гг. мелі намер накіраваць святара Сака для службы ў Петраград, але ён папрасіў пакінуць яго ў Беларусі. Далей служыў святаром на Міншчыне і Мазыршчыне, у Койданаве і Хойніках. Аляксандр Сак быў перакананым прыхільнікам беларусізацыі рэлігійнага жыцця беларусаў-католікаў, шырока выкарыстоўваў беларускую мову ў сваёй душпастырскай дзейнасці.

З вясны 1924 г. Аляксандр Сак жыў у Мінску, дзе часта гасцяваў у Янкі Купалы. Да гэтага перыяду адносяцца многія яго лірычныя вершы, паэмы і вершаваныя драматургічныя творы. Аляксандр Сак непазбежна трапіў пад пераслед савецкіх улад. Паводле дакументаў 17 снежня 1929 г. Сака змусілі публічна адмовіцца ад святарскага сану. Далей ён працаваў стыльрэдактарам у Беларускім дзяржаўным выдавецтве. Аляксандр Сак быў першым мужам беларускай пісьменніцы Ядвігі Бяганскай.

24 ліпеня 1930 г. Аляксандр Сак быў арыштаваны ДПУ БССР па справе так званага „Саюза вызвалення Беларусі". Яму прысудзілі пяць гадоў сталінскіх канцлагераў. Да 1934 г. адбываў тэрмін зняволення на будаўніцтве Беламорска-Балтыйскага канала. Другі раз яго арыштавалі 25 жніўня 1937 г. Тады ж быў арыштаваны і цесць Іосіф Бяганскі. Мяркуецца, што ўжо на наступны дзень энкавэдысты абодвух расстралялі. Жонку Сака Ядвігу Бяганскую таксама арыштавалі ў лістападзе 1937 г., засудзілі да дзесяці гадоў канцлагера, адправіўшы на Калыму. Яна была рэабілітавана ў 1954 г., а пасля рэабілітацыі Аляксандра Сака ў 1955 г. з новай сям'ёй змагла вярнуцца ў Мінск. Аляксандр Сак — амаль забытая постаць беларускага руху. Да гэтай публікацыі не ўдалося знайсці нават яго фота.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Прыгожыя кухонныя макаткі

Вясковыя гаспадыні ў Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета ў вольныя хвіліны любяць вышываць. Вышываюць яны, між іншым, многа макатак, у тым ліку кухонных. Занятак ручной вышыўкай супакойвае чалавека. Для гэтага трэба мець час, ахвоту, замілаванне ды цярплівасць.

2 жніўня гэтага года ў святліцы ў Лешуках Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета адкрылі багатую выстаўку кухонных макатак. Тут макаткі на розныя тэмы: эстэтыкі, здароўя, рэлігійныя і патрыятычныя. Ладзіла яе мясцовае Таварыства „Ятрышнік”. Атрымалася багатая экспазіцыя прац рукадзельніц, між іншым, Альжбеты Кунцэвіч, Лідзіі Харкевіч, Аляксандры Засім, Вольгі Клімовіч, Люцыны Зданоўскай, Марыі Казёл, Веры Скепка, Марыі Целушэцкай, Ядвігі Самоцік, Івоны Царэвіч, Галены Здanучык, Крыстыны Якубоўскай, Барбары Бірыцкай і Любы Барэчка.

Выстаўку адкрыла і вельмі цікава распавяла пра макаткі і нараўчанскіх вышывальшчыц Галена Рэент, член праўлення Таварыства „Ятрышнік” і лешуцкая солтыс. На мерапрыемства прыехалі, між іншым, войт Нараўчанскай гміны, дырэктар нараўчанскага Гміннага асяродка культуры і чатырох гмінных радных з Новага Ляўкова, Старога Ляўкова, Плянты і Семяноўкі. Сабралася шмат мясцовых жанчын, а таксама з Церамкоў, Міхнаўкі і Плянты, у тым ліку тыя, якіх працы прэзентаваліся на выстаўцы.

Выстаўка макатак карыстаецца зацікаўленасцю насельніцтва. Зараз у жніўні яна адкрыта штодзень ад гадзіны 10-й да 18-й. Яе наведваюць перш-наперш турысты, якія едуць спецыяльна вызначаным веласіпедным шляхам Green Velo цераз Лешукі.

**Тэкст і фота Янкі Целушэцкага**

■ Выстаўку макатак адкрыла Галена-Марыёля Рэент

## У нас скупляюць металалом

Добра, што маем такі пункт скупкі ў вёсцы Плянта Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Ёсць дзе прадаць металалом. На вясковых панадворках яго можна сабраць шмат. Гэта ж другасная сыравіна для металургічных заводаў. Пункт скупкі шмат гадоў вядзе Станіслаў Янель.

Спадар Станіслаў скупляе, між іншым, старыя легкавыя і вялікія аўтамабілі, халадзільнікі, лодкі з рухавікамі, бляшаныя гаражы, непрыгодныя для далейшага карыстання сельскагаспадарчыя машыны, трактарныя прычэпы, абручы, засаўкі, прыбоі, штангі, жалезныя пруты.

Хто п’е многа піва, алюмініевыя банкі можа прадаць тут на пункце скупкі металалому. За алюміній плацяць больш чымсьці за жалеза. За медныя рэчы таксама. **(яц)**

## Яны любяць вышываць і ткаць

Некаторыя вясковыя гаспадыні ў Нараўчанскай гміне займаюцца ручной вышыўкай і ткацтвам. Яны вышываюць ручнікі, макаткі, навалачкі на падушкі і святочныя белыя кашулі, а таксама карціны. Да гэтага трэба мець замілаванне і вялікую цярплівасць. Вышывальшчыцы каляровыя ніткі купляюць у крамах з махрой і мулінай у Гайнаўцы.

Вышыўкай займаюцца, між іншым, Тамара Скепка з Забрадоў, Зіна Рубчэўская, Яўгенія Смольская, Марыя Целушэцкая і Нэля Харкевіч з Новага Ляўкова, Ірэна Ігнацюк, Крыстына Паскробка, Міраслава Балтрамюк і Галіна Прычыніч са Старога Ляўкова, Лідзія Харкевіч і Альжбета Кунцэвіч з Лешукоў, Данута Каліноўская з Новага Масева, Лена Харкевіч, Малгажата Краўчык, Галіна Бірыцкая, Людміла Зданоўская і Ірэна Васько з Плянты, Галіна Вяжхоўская з Заблотчыны ды Альжбета Матысюк і Галіна Панькоўская з Семяноўкі.

Габелены ткуць, між іншым, Феліцыя Баркоўская, Галіна Грыка-Бірыцкая, Ірэна Васько, Малгажата Краўчык і Люцына Зданоўская з Плянты, Зіна Рубчэўская з Новага Ляўкова, Альжбета Кунцэвіч з Лешукоў, Барбара Бірыцкая, Анна Засім, Альжбета Матысюк, Галіна Панькоўская і Марыя Шыманюк з Семяноўкі ды Лідзія Бельская з Тарнопаля. **(яц)**

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — пагаворку.

1. мангольскі хан, заснавальнік Залатой Арды, камандаваў нашэсцем на Еўропу ў 1236-1242 гадах = 12 _ 38 _ 30 _ 23 _ 21 _;
2. дрэва сямейства вязавых = 35 _ 36 _ 34 _;
3. мужаў брат = 22 _ 9 _ 33 _ 2 _ 3 _ 13 _;
4. партнёр бабы = 18 _ 19 _ 20 _ 10 _;
5. нутраны тлушч = 37 _ 29 _ 24 _;
6. над зямлёю = 32 _ 8 _ 7 _ 31 _;
7. успрыманне паху = 28 _ 17 _ 15 _;
8. памяшканне ў вясковай хаце, адкуль дзверы ў пакой і кухню = 1 _ 6 _ 5 _ 27 _;
9. асноўная частка дрэва ад каранёў да верхавіны = 25 _ 4 _ 26 _ 11 _ 16 _;
10. горад на ўсходзе Румыніі, даўняя сталіца Малдавіі = 40 _ 39 _ 14 _.

(ш)

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| | | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |
| | | | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 | 39 | 40 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 29 нумара**

Аса, вянок, зубр, ліха, невук, Пекін, Піш, рог, стома, Ула, шаг, шыба, яд.

Рашэнне: **За грошы купіш добрага сабаку, але не купіш віляння хвастом**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Яну Міхалюку** з Чыжоў.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

## 16.08 — 22.08

**(22.03. — 20.04.)** 16-18.08. маланкава зрэалізуеш свой геніяльны план. Хіба не будзе працягу заснаваных у жніўні знаёмстваў. На працы канфлікты і напружаная атмасфера, на шчасце шэф стане за табой. З 21.08. перыяд будзе з менш прыемных. Грошай хопіць, але гаспадаруй імі ашчадна. 15-20.08. добры момант на рашэнні ў прафесійных і фінансавых справах. Вельмі дбай аб сваё сэрца і крывацёк, не пераборшчвай з сонцам.

**(21.04. — 21.05.)** Удасца табе ўсё з саюзнікамі. У парывах задбай аб тое, каб твае пачыны гаварылі самі за сябе. У сям’і і сярод сяброў усіх не задаволіш. На працы не будзеш найлепшым негацыянтам, асабліва 16-18.08.; не ўпірайся на сваім і не тарпедуй прапаноў іншых. Можа гэта падарваць твой аўтарытэт шэфа, спецыяліста ці бесстаронняга суддзі. 16.08. не дай выцягнуць ад сябе сакрэтных інфармацый. Перайдзі на лягчэйшую дыету.

**(22.05. — 22.06.)** 16-18.08. можаш рэалізаваць найбольш адважныя намеры, разлічвай таксама на сяброў і немалое шчасце. Але 16.08. можа падвесці цябе хтосьці, каму ты поўнасцю давяраў. Пакуль рашышся на канчатковы крок, падумай пра тое, што вас так моцна спалучала — 17-19.08. справы, якія вас дзялілі, акажуцца малаважнымі. 16.08. старайся не ператамляцца. Народжаныя ў III дэкадзе могуць наракаць на шчытавідку — сходзіце да эндакрынолага.

**(23.06. — 23.07.)** Калі хочаш гарачага, але малаважнага парыву, можаш падацца на любоўнае паляванне 16-20.08. (на сур’ёзную пару нарвешся 24-28.08.). Радня і знаёмыя будуць трактаваць цябе з большай павагай і будуць у цябе раіцца. Не выбірайся ў адпачынак далёка. Некаторыя Ракі з апошняй дэкады зноў сядуць на ровар!

**(24.07. — 23.08.)** 15-19.08. будзеш спраўны фізічна і задаволены, твае рашэнні будуць хуткія, трапныя. 16-18.08. спрыт і кемлівасць намецяць табе дарогу да поспеху. 16.08. трымайся здалёк ад плётак. 16-18. 08. будзеш вельмі ўпарты і цяжкі для атачэння. 16-18.08. не ляпні чагосьці непатрэбнага; адно слова можа зруйнаваць твой імідж і адносіны. Уява крышталізуецца 18-20.08. Калі шукаеш новую працу ці падзаработак, зрабі гэта 16-18.08.; пытайся пра працу ў знаёмых.

**(24.08. — 23.09.)** Будзь больш асцярожны і дбай аб здароўе. 17-10.08. не апірайся толькі на ўласным вопыце, райся ў людзей з большым вопытам. Ахвотна паслухаеш старыя сямейныя гісторыі. Другую дэкаду жніўня найлепш прызнач на адпачынак. Не спрачайся з кліентамі і з канкурэнцыяй. Лепшы настрой з 22.08.

**(24.09. — 23.10.)** 16-18.08. аформіш большасць важных спраў. Дасі рады ўсім супярэчнасцям. Твая другая палова будзе мець вялікі кампанейскі і прафесійны поспех. У сям’і не можа быць лепш чым цяпер. У прафесіі ніхто табе не адмовіць. Добры момант пачаць новыя мерапрыемствы: 16-18.08. Задбай аб сваё здароўе, адпачывай, не сапернічай ані на спортпляцоўцы, ані на дарозе.

**(24.10. — 22.11.)** Стаў перад сабою самыя амбітныя мэты. 16-20.08. наладзіш знаёмства, якое хутка зменіцца ў сяброўства. 16.08. будзеш нервовы, выбуховы — не канфрантуйся. 15-17.08. акажацца, што сярод знаёмых цябе выкарыстоўваюць, не паважаюць; паспяхова іх пазбудзешся. Да 19.08. справішся з рахункамі і папяровай работай (у апошняй дэкадзе зрэалізуеш задумы, якія цяпер заляцяць табе ў галаву). 16-17.08. добра падмацуеш сваё здароўе; можа, звольніцца для цябе месца ў санаторыі? З 21.08. можаш адчуць стому і недахоп сілы (да 27.08.).

**(23.11. — 22.12.)** 16-18.08. ідэальны час на адпачынак. Дзейнічаць будзеш з размахам, здабываючы тое, аб чым марыў. Усё пойдзе табе хутка і лёгка. Калі пісаны вам раман, трапіце ў абдымкі да 19.08. Цалкам захопіць цябе праца і мала хто за табою паспее. Не бойся за будучыню. Можа, пачнеш практыкаваць ёгу?

**(23.12. — 20.01.)** Пераможаш усе цяжкасці і з радасцю прывітаеш пазітыўныя змены. Будзеш заахвочаны да змагання за пазіцыю і ўплывы. Глянь на сябе вачыма іншых. З 16.08. пакажаш, што з табою трэба лічыцца. Найбольш зробіцца ў інтарэсах Казярогаў з III дэкады. Разгружай напружу спортам, нават экстрэмальным. 17-21.08. павялічыцца стус абавязкаў і спраў да афармлення. З 21.08. (да 27.08.) будзь асцярожны і пазбягай рызыкі.

**(21.01. — 19.02.)** Будзеш у цэнтры кампанейскіх падзей. 16-18.08. дасі рады ворагам і найцяжэйшым выклікам. Хтосьці з маладшага пакалення цябе пакіне — такая каляя рэчаў. 16-18.08. — час на старт з уласным бізнесам. З 22.08. могуць адазвацца старыя нямогласці; толькі прафілактыка!

**(20.02. — 21.03.)** Усё будзе па-твойму. 16-20.08. пазнаёмішся з кімсьці, хто «вяшчае на тых самых хвалях». Прыцягваць будзеш ашуканцаў, але з імі справішся. Пасля 20.08. выедзь кудысьці з каханай асобай. Купляй з галавой — можаш не заўважыць, што тавар мае хібы. Перамажы тугу. Салі ёдаванай соллю, еж тофу, ананасы і плады мора.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

**Францішак Багушэвіч жыў даўно-даўно, сёлета споўнілася 180 гадоў ад яго нараджэння і 120 гадоў ад ягонай смерці. Найчасцей прыводзіцца ягоная цытата пра каштоўнасць роднай мовы, аднак і іншая ягоная спадчына вартая ўвагі. Напрыклад верш „Воўк і авечка”:**

Злавіў воўк ягнятка
І панёс жывое!
Плачуць сын і матка,
Як бабры, абое.
Воўк над маткай злітаваўся,
Як які аконам,
У аўчынку перабраўся
Ды ідзець з паклонам.
«Прыйшоў, — кажа, — я здалёчку
Расказаць пані авечцы
Добру вестку аб сыночку, —
Як яму цяпер жывецца.
Не пазнала б ты ніколі,
Такі стаў дасужы
І жывець сабе на волі,
Без бяды, бяз нужы.
Зубы выраслі з клыкамі,
І адпалі рожкі,
Ножкі цяпер з пазурамі,
Хвост даўжэйшы трошкі.
І ўжо воўка не баіцца,
Ў хлеў ніхто ня гоне;
Мае чым абараніцца
І другіх бароне!
Прыйдзі, імасць, да нас ў госці,
Справім сабе вечарынку:
Будзе мяса, будуць косці,
Будзем есць без адпачынку!»
«Дзякуй, дзякуй, ягамосьці,
За весці такія!
Няхай прыйдзе сын у госці,
Пагляджу, ці вые?
Бо, кажуць, меж вамі
Трэба выць ваўкамі.
Я ж па-воўчу не умею
Ні выць, ні есці, ні лгаць.
Ды скінь скурку, дабрадзею,
Бо зубкі відаць».
І авечка, хоць дурная,
А воўка ж пазнае!


Пасляфабрычны будынак у Харошчы

# Воўна



У папулярнай культуры авечка асацыюецца з недастаткам глузду, бяздумнай, якая лёгка паддаецца паніцы ўсяго статка. А тут, у Багушэвіча, яна паказваецца істотай мудрай, якая лёгка распазнае воўчую хлусню. Дарэчы, вучоныя, якія займаюцца вывучэннем жывёльных паводзін, лічаць авечку адной з мудрэйшых жывёл, уступаючай у гэтым ракурсе толькі свінні. Авечка распазнае авечыя і чалавечыя твары і захоўвае іх у памяці гадамі. Да таго ж умее яна распазнаваць па выглядзе твару таго ўласніка ягоны настрой...

Авечка суправаджае чалавека з незапамятнага часу. Падаецца, што яна была найраней асвоенай жывёлай, магчыма, што ў гэтым плане яна ўступае толькі сабаку. Вікіпедыя: „Найважнейшая асаблівасць свойскіх авечак — высокая іх прыстасавальнасць да розных умоў развядзення. Яны добра пераносяць халодны і гарачы клімат, добра сябе адчуваюць у сухіх пустынных раёнах поўдня і на зялёных раўнінах умераных шырот. Другая каштоўная якасць авечак — добрая прыстасаванасць да пашавага ўтрымання, здольнасць выкарыстоўваць самыя танныя кармы і знаходзіць іх сабе нават на самых бедных пашах. Яны паядаюць вялізную колькасць розных раслін, у тым ліку пустазелле. Шматкамерны страўнік і добра развіты стрававальны апарат забяспечваюць засваяльнасць да 75 % пажыўных рэчываў грубых кармоў. Аднак авечкі дрэнна пераносяць павышаную вільготнасць і вільготныя пашы. Пры перабоях у кармленні і паенні многія пароды авечак здольны траціць адкладзеныя ў целе (на хвасце, у курдзюку) тлушч, што дапамагае пераносіць бяскорміцу.”

Авечку ж чалавек асвоіў не дзеля ягонай прыстасавальнасці да розных умоў развядзення. Галоўны авечы козыр, якім схіліла яна да сябе чалавека, гэта воўна. Яна выкарыстоўваецца з каменнай эпохі. Пачаткі асваення авечкі на сённяшнім Блізкім Усходзе, на раўнінах Месапатаміі, спачатку для мяса, вопраткі і жылля. Пазней людзі навучыліся прасці і ткаць воўну. Воўна стала адной з галоўных крыніц багацця Вавілона. Цяпло ў вырабленых з воўны вопратках і мабільнасць авечых статкаў паспрыяла хуткаму распаўсюду гадоўлі авечак. За час свайго панавання старажытныя рымляне распаўсюджвалі авечкагадоўлю па ўсёй сваёй імперыі — у Паўночную Афрыку, на Пірэнейскі паўвостраў, у Заходнюю Еўропу, у тым ліку і на Брытанскія астравы. Таксама выводзілі яны новыя пароды гэтых жывёл. Місію рымлян з ходам часу пераняялі сарацыны, якія заняліся інтэнсіўным гандлем ваўнянымі вырабамі, завозячы іх па ўсім басейне Міжземнага мора. У Сярэднявеччы грэчаскія ткачы былі закінуты нявольнікамі ў італьянскія гарады Геную, Фларэнцыю, Венецыю, Палерма, прычыняючыся да росквіту тамашняй ткацкай вытворчасці.

Гандаль ваўнянымі вырабамі развіўся таксама і на Пірэнейскім паўвостраве. Там, у XII стагоддзі ўдалося выгадаваць новую пароду авечак, мерынасаў, з вельмі высакаякаснай воўнай. Гэтая воўна лічылася вельмі каштоўным скарбам: іспанскія каралі забаранілі вываз гэтай пароды навонкі краіны; за парушэнне гэтай забароны пагражала смяротнае пакаранне. Мяркуецца, што прыходы ад гандлю воўнай мерынасаў дазволілі сфінансаваць плаванне Хрыстафора Калумба ў напрамку Новага Свету...

На захадзе Еўропы ткацтва развілося ў Фландрыі, спачатку з мясцовай сыравіны; там, на слабых пашах, пасвілі шмат авечак. Пасля сталі завозіць воўну з Англіі, дзе таксама на слабых пашах пасвілі авечак, а вырабы з англійскае воўны прадаваць у тую ж самую Англію з выдатным заробкам. Ажно ў XIV стагоддзі англійскі кароль Эдвард III скумекаў гэты інтарэс і забараніў вываз воўны ў Фландрыю. Фламандскія ткачы, пазбаўленыя сыравіны і сродкаў для жыцця, прыдушаныя да таго ж іспанскімі заваёўнікамі Нідэрландаў, сталі масава перазджаць у Англію, даючы пачатак развіццю тамашняй тэкстыльнай вытворчасці.

Паволі-паволі кацілася авечкагадоўля і ў наша старонне. Высякаліся лясы, адкрываючы розную глебу, ураджайную і менш ураджайную. Ну і на бяднейшай глебе атрымаўся добры грунт для разводу авечак. І ўжо ў XVIII стагоддзі Антон Тызенгаўз заводзіць прадзільныя мануфактуры ў Гродне і наваколлі. Аднак ягоныя гаспадарчыя парывы не мелі поспеху. Новая хваля гаспадарчага развіцця завітала сюды пасля Лістападаўскага паўстання 1830/31 года. Была ўстаноўлена таможная мяжа паміж Каралеўствам Польскім і Расійскай Імперыяй, што ўскладняла завоз тэкстыльных вырабаў з Польшчы ў Расію. Тады фабрыканты-тэкстыльшчыкі сталі пераводзіць вытворчасць у наваколле Беластока.

У 1840 годзе ў Харошчы пачынае дзейнасць фабрыка суконных вырабаў Хрысціяна Моэса, у 1843 годзе фабрыка Вільгельма Захерта ў Супраслі. Вось фрагмент апісання фабрыкі ў Харошчы, аўтарства Паўла Баброўскага з 1863 года: „Фабрыкай кіруюць, пад наглядам уласніка, адзін дырэктар і тры намеснікі. Уся перапіска вядзецца на нямецкай мове ў канторы з сямі чыноўнікаў, касіра, трох кнігаводаў і трох пісараў. Майстроў 9, падмайстроў 15, рабочых 710 мужчынскага і 400 жаночага полу. Хлопчыкі і дзяўчынкі заняты ў прадзільні, ёсць і менш дзесяці гадоў. Пры фабрыцы ёсць хірург, аптэка, шпіталь і дзве школы: элементарная евангелічная і нядзельная. Медык прыязджае з Беластока раз у тыдзень і кожны раз у экстранных выпадках. Кожны рабочы карыстаецца лячэннем і медыкаментамі бясплатна; дзеля гэтага з заробкаў адводзіцца 1%. Элементарная школа ўтрымоўваецца за кошт уладальніка і невялікай платай навучэнцаў. У гэтай школе навучаюцца 80 хлопцаў і 83 дзяўчынкі. Нядзельная школа заснавана для працуючых у фабрыцы малалетніх дзяцей, у ёй 34 навучэнцы.” Мадэрнейшыя машыны Моэс завозіў з Бельгіі, Саксоніі, Прусіі і Францыі. Фабрыка Моэса спыніла сваю вытворчасць у выніку страт ад Першай сусветнай вайны. Цяпер у яе збудаваннях размяшчаецца вядомы ў наваколлі харашчанскі шпіталь...

У Супраслі, апрача згаданага Захерта, тэкстыльную вытворчасць заводзяць таксама Бухгальц, Аўнерт, Альт, у Гарадку Ян Трангольц і Сроль Віленчык, у Міхалове Северын Міхалоўскі. У Цеханоўцы Аўгуст і Карл Клейнберг, Карл Мілер, Ян Фрэймарк, Генрых Шульц. У Беластоку Блохава, Гальперн, Комісаў, Заблудаўскі...

Так было калісь. Так агульна, бо ж з воўны выраблялiся розныя рэчы: дываны, габелены, сукно, валёнкі... А ўсё гэтае багацце пачыналася са стрыжкі такіх звычайных, здавалася б, авечак...

Аляксандр ВЯРБІЦКІ

ISSN 0546-1960